*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
**28**
МАЯ
1993 г.

№ 21 (3691)

КОШТ
3 рублі





Што пахінула Уладзіміра САВІЦКАГА да «Раскіданага гнязда» - сказаць цяжка, бо ягонае рэжысёрскае абыходжанне з класічнай п'есай Янкі Купалы ў тэатры-студыі «Абзац» не выдае на востразлабадзёнfamous. Не нагадвае адвечную песню пра зямлю і волю. Не вымагае пазачарговага з'езда земляробаў, не агітуе за фермерства. Не прэтэндуе на медытацыю на падставе дамагання агульнадушэўнае раўнавагі. Не падпадае і пад якое-кольвек агульназручнае меркаванне: маўляў, як тое «Гняздо» трэба раскідаць...

Упершыню сыграны летась у лістападзе, спектакль у хуткім часе адбудзецца свой «законны» сезонны ... пяты раз: запрошаныя акцёры /і з мінскіх тэатраў, і студэнты Акадэміі/ толькі зрэдчас патрапляюць вызваляцца для двухгадзіннай «Сумнай аповесці...» /назва спектакля/, - падзеі сёлетняга тэатральнага сезона...

Нататкі пункцірам у чаканні пятага спектакля - на 11-й старонцы гэтага нумара.

*НА ЗДЫМКУ: сцэна са спектакля «Сумная аповесць...» паводле Янкі Купалы. Наталля КАФАНАВА /Марыля/, Наста ГАВЯДЗІНАВА /Зоська/, Алег ГРЫСЕВІЧ /Данілка/*

*Фота Уладзіміра ПАНАДЫ*

ВІНШУЕМ!

# ЛАЎРЭАТЫ ЛІТАРАТУРНЫХ ПРЭМІЙ

Стала традыцыяй прысуджаць штогод за лепшыя творы літаратурныя прэміі Саюза пісьменнікаў Беларусі. Іх было дзве — імя Аркадзя Куляшова і імя Івана Мележа. На апошнім пасяджэнні Рады СП, што прайшла ў мінулы аўторак, была зацверджана і трэцяя, якая атрымала імя пачынальніка беларускай літаратуры для дзяцей і юнацтва Янкі Маўра. На гэтым жа пасяджэнні ў выніку тайнага галасавання сталі вядомы імёны новых лаўрэатаў.



Літаратурную прэмію імя А.Куляшова атрымаў Юрась СВІРКА. Адзначаны яго паэма «Між вогненных чэрвеняў», прысвечаная Янку Купалу, паэтычныя публікацыі ў «ЛіМе» і зборніку «Дзень паэзіі-92», якія склалі кнігу «Узаемнасць».



Віктар ГАРДЗЕЙ з аднолькавым поспехам выступае як у галіне паэзіі, так і прозы. Прынамсі, яго празаічная кніга «Уратуй ад нячыстага», засведчыла, што пісьменнік і надалей удасканальвае сваё майстэрства. За гэтую кнігу В.Гардзею прысуджана Літаратурная прэмія імя І.Мележа.



Першым лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра стаў Уладзімір ЛІПСКІ -- за кнігу «Вясёлая азбука».

Лімаўцы ад усяго сэрца віншуюць новых лаўрэатаў, зычаць ім далейшых творчых поспехаў!

СЕМІНАРЫ

# ПАЧАТАК ТРАДЫЦЫІ

*15—16 мая г.г. на лагойскай зямлі прайшоў злёт-семінар маладых паэтаў Міншчыны, арганізаваны аддзелам культуры Лагойскага райвыканкама, Абласной бібліятэкай імя Пушкіна, Дзяржаўным літаратурным музеем народнага песняра ў Мінску. На радзіму Купалы зляцеліся «арляняты» — маладыя паэты амаль з усіх літаратурных аб'яднанняў вобласці. Добрым падарункам для іх стаў выдадзены на ратапрынце зборнічак вершаў.*

Праграма семінара была досыць насычанай. Пасля ўскладання кветак да помніка Янку Купалу ў філіяле «Акопы» адбылася экскурсія па экспазіцыі музея. На тэатральнай пляцоўцы гучалі вершы вядомых і пачынаючых паэтаў, песні бардаў. Пасля ўдзельнікі злёту працавалі па секцыях, якімі кіравалі С. Законнікаў, У. Някляеў, Г. Каржанеўская, А. Пісьмянкоў. Увечары ўдзельнікі семінара прагледзелі фільм «Ніколі я не паміраў», прысвечаны Янку Купалу. У другі дзень зноў былі змястоўныя экскурсіі па мясцінах, дзе нарадзілася больш чым 70 твораў Янкі Купалы. «Семінарысты» пабачылі велізарны камень, дзе любіў пісаць паэт, удыхнулі водар мясцін, прыгажосць якіх жывіла паэзію народнага песняра.

Цікавай была сустрэча са старажылам вёскі Янушкавічы — былым настаўнікам, краязнаўцам, які многія гады збірае матэрыялы пра жыццё Янкі Купалы на Лагойшчыне і быў знаёмы з паэтам Мечыславам Несцяровічам. Самадзейныя артысты з вёскі Гайна спявалі народныя песні.

Правядзенню творчага семінара спрыяла Упраўленне культуры Мінскага аблвыканкама, якое ўзначальвае В. Гедройц. Ёсць надзея, што такія сустрэчы стануць традыцыйнымі на Лагойшчыне. Кажучы словамі пачынальніка беларускага Адраджэння Антона Луцкевіча, «даспявае хіба новае, маладое пакаленне песняроў беларускіх, аб якіх маем поўнае права сказаць, што яны ўсе — у большай ці меншай меры, — духоўныя дзеці Янкі Купалы».

**Т. ГАМБАЛЕЎСКАЯ,**
**вучоны сакратар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы**

*Фота П. Жолцікава*



АНОНС

# НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ

31 траўня ў будынку Вярхоўнага Савета Беларусі адбудзецца «круглы стол» маладых эканамістаў. Размова пойдзе аб шляхах выхаду з эканамічнага крызісу. Плануецца, што ўдзел у размове прыме Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч.

●

5 чэрвеня пройдуць першыя Карэліцкія краязнаўчыя чытанні, прысвечаныя славутым землякам: Ігнату Дамейку, Яну Чачоту, Вінцэсю Каратынскаму, Янку Брылю, Барысу Кіту і іншым.

●

У гэты ж дзень пройдзе III пленум Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады і II Вальны Сойм рэспубліканскай арганізацыі «Выбранецкія шыхты».

●

Днямі адбудзецца пасяджэнне Цэнтральнай Рады Беларускай сялянскай партыі /БСП/, дзе будзе дадзена ацэнка падзеям на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і будзе выпрацавана прынцыповае стаўленне БСП да З'езда беларусаў свету.

●

5—9 чэрвеня ў Каралярўцы /Калінінградзе/ адбудзецца міжнародны фальклорны фэст ИВС, дзе прымаюць удзел 10 краін Балтыі. Запрошаны таксама фальклорныя гурты з Беларусі.

**Паўлюк БЫКОЎСКІ**

# НЕ ДАМО РАСПРАВІЦЦА З ПАТРЫЁТАМІ БЕЛАРУСІ!

## *Зварот да грамадзян Беларусі*

Сотні гадоў наш народ пазбаўлялі права на існаванне, зневажалі, знішчалі. Гісторыя дала Беларусі шанц адрадзіцца. Але ў краіне па-ранейшаму пануюць наменклатурна-камуністычныя сілы. Каб пазбегнуць адказнасці за развал эканомікі і раскраданне нашых багаццяў яны гатовыя пахаваць парасткі дэмакратыі й знішчыць нашую незалежнасць, зацягнуўшы Беларусь у ваенны саюз. Калі ж патрыёты Беларусі выступаюць супраць гэтага— наменклатура пачынае з імі вайну.

Асаблівую нянавісць антыбеларускіх сіл заслужыла Беларускае Згуртаванне Вайскоўцаў /БЗВ/. Гэты грамадска-патрыятычны рух узяў на сябе місію ў цяжкіх умовах, нярэдка ў непрыхільнай да беларушчыны атмасферы ў сучасным войску прапагандаваць уласным прыкладам беларускі дзяржаўны патрыятызм, вяртаць у войска беларускую мову і традыцыі, тым самым пераадольваючы адчужанасць паміж наваствораналй беларускай арміяй і беларускім народам. БЗВ падтрымлівае прынятую Вярхоўным Саветам па прапанове Міністэрства абароны дактрыну ўзброенага нейтралітэту, а значыць, выступае супраць спроб насуперак гэтаму зацягнуць Беларусь у вайсковы саюз.

Але замест таго, каб падтрымаць і развіць шматлікія ініцыятывы БЗВ, што было б натуральным для войска маладой незалежнай дзяржавы, Міністэрства абароны па загадзе кіруючай наменклатуры робіць усё, каб расправіцца з актывістамі Згуртавання. Ужо беспадстаўна звольнены з войска многія актывісты БЗВ. І вось на падставе незаконнага заключэння аб нібыта палітычным характары дзейнасці БЗВ звольнены з Узброеных Сіл старшыня БЗВ падпалкоўнік Мікола Статкевіч — нібыта «за дыскрэдытацыю высокага звання афіцэра».

«Віна» падпалкоўніка Статкевіча — у тым, што ён у ліку першых сярод вайскоўцаў падняў імя Беларусі і адкрыта заявіў пра неабходнасць тварэння беларускага войска, што 19 жніўня ў форме, ратуючы гонар арміі, казаў на плошчы людзям праўду, у тым, што ён — патрыёт Бацькаўшчыны.

Такім чынам, у войску працягваюць цкаваць патрыётаў Беларусі. У той жа час спакойна дослужваюць хабарнікі і злодзеі, а некаторыя з іх займаюцца яшчэ і палітычнай дзейнасцю, якая вайскоўцам забаронена законам. Але гэта — камуністычна-імперская дзейнасць, супраць якой Міністэрства абароны нічога не мае. Наадварот, яно падтрымлівае дзейнасць Саюза афіцэраў — філіі Саюза афіцэраў Расіі, па віне якога пралілася кроў у Маскве 1 траўня.

Сапраўдная мэта звальнення Міколы Статкевіча — запалохаць вайскоўцаў, не пакінуць сумненняў у антыбеларускім курсе вайсковага кіраўніцтва краіны. Звальненне Статкевіча — яскравы прыклад беззаконня і парушэння правоў чалавека, якія пануюць у беларускім войску і наогул у Беларусі.

Мы заклікаем усіх, каму неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны, узняць голас у абарону дэмакратыі, законнасці, правоў чалавека. Не дамо антыбеларускім сілам расправіцца з патрыётамі Беларусі!

**БЫКАЎ В.** -- народны пісьменнік Беларусі
**АКСАМІТ М.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**АНТОНЧЫК С.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**АЛАМПІЕЎ В.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**АСТАПЧЫК С.** — акадэмік АНБ
**БАБАЧОНАК С.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**БАГАЎЦОЎ Э.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**БАРШЧЭЎСКІ Л.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**БАРЫСЕНКА А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**БЕЛЕНЬКІ Ю.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ВЯРЦІНСКІ А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ВЯЧЭРСКІ Р.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ГАЛУБОВІЧ В.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ГЛІНДЗІЧ Я.** — ветэран працы
**ГЛУШКЕВІЧ Я.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ГОЛУБЕЎ В.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ГЕРАСЮК І.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ГРУШАВЫ Г.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ГРЫНЦЭВІЧ М.** — нам. старшыні ВР НДПБ
**ГРЫЦКЕВІЧ А.** — прафесар, доктар навук
**ГЮНТАР Б.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ДАВІДЗЮК Г.** — прафесар БДУ
**ДАЎГАЛЁЎ В.** — народны дэпутат Рэспублікі.Беларусь
**ДАЎЛЮД А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ДЗЕЙКА Л.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ДЗЮК В.** — заслужаны ветэран працы
**ДРАБЫШЭЎСКАЯ І.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ДРАГАН П.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ЗАБЛОЦКІ У.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ЗАКОННІКАЎ С.** — галоўны рэдактар часопіса «Полымя»
**ЗВЕРАЎ Л.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ЗДАНЕВІЧ Л.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**КАКОЎКА В.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**КАМАРОЎ І.** — акадэмік АНБ
**КАРПЕНКА Г.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**КАПЦЭВІЧ А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**КЛІШЭЎСКІ Н.** — ветэран працы
**КРУЦЬКО М.** — доктар хімічных навук
**КРЫЖАНОЎСКІ М.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**КУЛАЖАНКА У.** — прафесар
**КУНЕВІЧ Г.** — старшыня праўлення фонду ПДР імя Л. Сапегі
**КУРДЗЮКОЎ В.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ЛЕЦКА Я.** — старшыня Рады ЗБС «Бацькаўшчына»
**ЛУГІН Я.** — старшыня Беларускай Сялянскай Партыі
**ЛЯБЕДЗЬКА А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**МАЛАШКА В.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**МАЛЬДЗІС А.** — прафесар, доктар філалагічных навук
**МАРКЕВІЧ М.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**МАРХЕЛЬ Г.** — засл. арт. Рэспублікі Беларусь
**МАЙСЕЕЎ Г.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**НАВУМЧЫК С.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**НІКІТЧАНКА І.** — член-карэспандэнт АНБ
**НОВІК У.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**НОВІКАЎ Я.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ПАЗНЯК З.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ПАРУЛЬ А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ПАЛАГЕЧА І.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ПІСЬМЯНКОЎ А.** — нам. старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі
**ПЛІСКА М.** — нам. старшыні АДПБ
**ПЫРХ І.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**САГАНОВІЧ Г.** — кандыдат гістарычных навук
**САЛДАТАВА Н.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**САСНОЎ А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**САЧАНКА Б.** — галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя»
**СЛАБЧАНКА С.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**СПІГЛАЗАЎ А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**СУРМАЧ Г.** — жаночы Хрысціянска-дэмакратычны рух Беларусі
**СУКАЧ М.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**СЯМАШКА І.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ТАРАСЕНКА Л.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ТРУСАЎ А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ТЫЧЫНА В.** — ветэран працы
**УЛАСЕНКА В.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ХОЛАД П.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ХВОШЧ У.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ХІТРЫК У.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ЦУМАРАЎ Я.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ЧАРНЯЎСКІ М.** — кандыдат гістарычных навук
**ШАДЫРА В.** — кандыдат гістарычных навук
**ШАЧАК В.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ШТЫХАЎ Г.** — прафесар, доктар гістарычных навук
**ШУТ А.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь
**ЯКУБОЎСКІ М.** — народны дэпутат Рэспублікі Беларусь

храни», Новікаў ні з таго ні з сяго з'едліва тузануў Станіслава Шушкевіча: «Жывём мы без «цара ў галаве і на троне»... Праўда, у нас ёсць Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Той самы, другі прысяжны з ліхой тройкі, якая ў сакрушальным імпэце скасавала Савецкі Саюз». Што ж, можна толькі паспачуваць «товарищу» Новікаву адносна ягонага сіндрому настальгічнай болі па «едином могучем». А наконт «скасавання» — то гэта прысуд самой гісторыі, а не «свавольствы» «ліхой тройкі»...

У пераборах палітычных клавішаў Новікаў не абмінуў і асобу З. Пазняка. «Праўда, ёсць прэтэндэнт калі не на царскі, то на дыктатарскі трон Беларусі — Зянон Пазняк». «Знаёмы матыў» — да банальнасці! Але, як кажуць у народзе, «чем больше Позняка ругают, тем лучше нравится он нам». Я сам чуў сваімі вушамі такія словы. Каб «товарищ» Новікаў не западозрыў мяне ў прыналежнасці да БНФ, мушу сказаць, што не належу ні да гэтага руху, ні да іншай палітычнай партыі.

Зрабіўшы рэтраспектыўны экскурс у гісторыю, праліўшы слязу «по тем славным временам», Новікаў умомант намаляваў славесны партрэт Барыса Ельцына як рэлігійнага фанатыка. Цікава, якое дачыненне мае Ельцын да беларускага гімна? Дарэмна чакаў я ад І. Новікава станоўчага адказу на пастаўленае аўтарам пытанне «Дык што ж будзем спяваць?» — так і не дачакаўся...

Пераключыўшы рэгістр сваіх «варыяцый на палітычныя тэмы», аўтар усё ж зрабіў вывад: «...не варта спяшацца з прыняццем яго /гімна — **В. С.**/. Прыйдзе час, і ён сам народзіцца». Да болю знаёмае суцяшэнне; не трэба спяшацца з адраджэннем матчынай мовы, не трэба спяшацца з прыняццем Канстытуцыі, не трэба спяшацца са скарачэннем арміі, не трэба спяшацца з рэферэндумам і г. д.

Чытаючы заключныя радкі артыкула і вывады аўтара, міжволі думаеш: няўжо для гэтага «адкрыцця» аўтару спатрэбілася сваімі перакрутамі мазоліць вочы чытача? А, зрэшты, можа, Іван Новікаў і сапраўды мае рацыю, можа, і далей беларусам варта «гімніць» па-старому — яшчэ не дараслі «людзьмі звацца», толькі трэба замяніць у існуючым беларускім гімне другі радок, каб атрымалася: «Мы, беларусы, з братняю Руссю будзем далей будаваць камунізм»? А далей — як у тэксце гімна. Цудоўна! Ці ж не так?.. Потым вырасце новае пакаленне «гома саветыкусаў» /ці гома русікусаў/, якое ўскараскаецца на «вяршыню светлай будучыні», хоць і ў сексуальных касцюмах Адама і Евы, і складзе гімн-хвалу «новай эпосе»...

Відаць, такая дамінанта артыкула Івана Новікава...

**Васіль СОКАЛ**

*Ляхавіцкі раён*

МАРТЫРАЛОГ БЕЛАРУСІ

# ЯШЧЭ АДНА АХВЯРА КУРАПАТАЎ

Страхотная бяда здарылася з нашай сям'ёй 6 жніўня 1937 года. Пятага жніўня бацьку выклікалі ў сельскі Савет. Там яго сталі прымушаць уступіць у калгас. Маўляў, ён добры гаспадар, мае чатыры каровы, два кані, авечкі, у яго дабротныя гаспадарчыя пабудовы. Адным словам, такія, як ён, працавітыя людзі і яго гаспадарка патрэбны калгасу.

Бацька, як іншыя сапраўдныя хлебаробы, быў супраць калектыўнага гаспадарання, таму адмовіўся пісаць заяву, не ўступіў у калгас. Узрушаны, раздражнёны, вярнуўся з сельсавета дахаты.

Адчуваючы нядобрае, маці яшчэ ў двары ўсхвалявана запыталася:

— Што яны табе сказалі?

— У гэтых гадаў зуб гарыць на маю гаспадарку. Нічога я ім не аддам! — са злосцю сказаў ён.

Маці зрабілася блага, яна загаласіла:

— Павел, чуе маё сэрца, што дорага табе абыдзецца, калі не ўступіш у калгас. Нас і так абклалі падаткамі, адбіраюць і хлеб, і мяса, ледзь канцы з канцамі зводзім...

Але бацька стаяў на сваім. Пад вечар запрог каня, мяне — мне тады ішоў шосты год — пасадзіў на драбіны і мы паехалі паглядзець, ці паспела наша жыта. Звычайна гаваркі, жыццярадасны, бацька быў маўклівы, засмучаны. Толькі як прыехалі, ля высокага, густога, нібы сцяна, жыта я заўважыў, як набраклыя горыччу, сумам вочы ў бацькі нейк адразу засвяціліся радасцю.

Вечарам бацька ўсёй сям'і, як пра вельмі важную падзею, урачыста аб'явіў:

— Заўтра пачнём жніво.

А ўначы я прачнуўся ад грукату і гучных галасоў. У прыцемку хаты я ўбачыў бацьку, заплаканую маці і двух чужакоў у блакітных вайсковых шапках. Гэта былі энкавэдысты, яны прыехалі з раённага цэнтра Чырвоная Слабада. Адзін з іх тыцнуў бацьку ў твар паперыну: паднёс бацьку да твару:

— Грамадзянін Корзун, вось ордэр на арышт і вобыск.

— Арышт? За што? Я ні ў чым не вінаваты!

— Ты контра паўзучая! — крыкнуў другі.

Пачаўся вобыск. У хаце перавярнулі ўсё ўверх дном. Нічога не знайшоўшы, узялі з сабой некалькі кніг, забралі бацьку ў «варанок», рушылі ў бок Чырвонай Слабады.

А раніцай у двары з'явіліся старшыня сельскага Савета і калгаснае начальства. Убачыўшы ў сенцах зняможаную маці з сярпом у руках, старшыня сельсавета запытаўся, куды яна сабралася. Маці адказала, што пойдзе жаць жыта.

— Было жыта ваша, а цяпер калгаснае, — з'едліва сказаў старшыня.

У карысць калгаса абагульнілі нашых кароў, коней, гаспадарчыя пабудовы.

Маці прасіла:

— Апамятайцеся! У мяне пяцёра дзяцей. Яны ж з голаду памруць! Хоць дзяцей пашкадуйце!

— У савецкай уласці няма жаласці да сям'і ворага народа, — сказаў старшыня сельсавета.

Мы ўсё спадзяваліся, што ні ў чым не вінаватага бацьку адпусцяць дадому. Але мінула колькі дзён, а ён не вярнуўся. І не было ад яго ніякай весткі.

Спакутаваная маці пайшла ў Чырвоную Слабаду. Вярнулася ні з чым. У раённым аддзеле НКУС сказалі, што пра лёс нашага бацькі нічога не ведаюць.

У мяне сэрца болем заходзіцца, калі ўспамінаю, як па-зверску мясцовая ўлада здзекавалася з маці. Разрабаваўшы гаспадарку і давёўшы нашу сям'ю да голаду, маці паслалі на будоўлю шасейнай магістралі за тры вярсты ад вёскі. Праца там была цяжкая, нежаночая. Маці неўзабаве нельга было пазнаць: твар зрабіўся шэры, нібы воск, вочы глыбока запалі. Там, на шасейцы, яна і памерла.

Амаль паўстагоддзя я нічога не ведаў пра лёс бацькі. І толькі нядаўна мне далі пісьмовы адказ: «Згодна архіўным матэрыялам, Корзун Павел Фаміч, 1898 года нараджэння, ураджэнец вёскі Заўшыцы Старчыцкага сельсавета Чырвонаслабодскага, цяпер Салігорскага, раёна, Мінскай вобласці, беларус, з сялян, малаадукаваны. У 1918 годзе быў прызваны ў Рабоча-Сялянскую Чырвоную Армію і служыў у 169 пяхотнай брыгадзе. Летам 1919 года дэмабілізаваны па хваробе і быў на ўліку запаса першай катэгорыі Чырвонаслабодскага райваенкамата, працаваў на сельскай аднаасобнай гаспадарцы. 6 жніўня 1937 года Корзун П. Ф. быў арыштаваны Чырвонаслабодскім НКДБ і неабсанавана прыцягнуты да крымінальнай адказнасці за тое, што ён нібыта праводзіў антысавецкую агітацыю, быў членам трацкісцкай аграрнай партыі, з'яўляўся польскім шпіёнам... 10 верасня 1937 года па Пастанове Асобай Тройкі НКВД Корзун П. Ф. прыгавораны да выключнай меры пакарання, і 17 верасня расстраляны ў горадзе Слуцку. Звестак пра канкрэтнае месца яго пахавання ў органах КДБ няма. Пастановай Прэзідыума Мінскага абласнога суда ад 19 красавіка 1978 года крымінальная справа ў адносінах Корзуна П. Ф. спынена за адсутнасцю ў яго дзеяннях складу злачынства, і ён рэабілітаваны».

Я вітаю распад савецкай імперыі, у якой на працягу ўсіх гадоў лютаваў генацыд. Яе называлі звышдзяржавай... Але якая гэта звышдзяржава, калі яна ад аднаго дотыку рассыпалася, нібы сатлелы шкілет!

**Мікола КОРЗУН**

***ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ***

# З ПЕРСАНАЛІЯМІ — ПАЧАКАЕМ

## *З нагоды публікацыі артыкула У. Калесніка «На вышыні абсурду»*

Цікавасць да мінулага, у тым ліку і да часоў адносна не вельмі далёкіх — адметная рыса сённяшняга нашага жыцця. Панаваўшыя ў гістарычнай навуцы канцэпцыі, аднак, аказаліся няздольнымі адказаць на новыя пытанні і справядліва былі адкінуты. Разам з канцэпцыямі былі адкінуты крыніцы, дзякуючы якім яны мелі прывабны «навуковы» выгляд. Каб запоўніць узнікшыя прабелы, у навуковы зварот уводзяцца новыя дакументы. Найбольш змястоўныя з іх — матэрыялы следчых спраў, якія захоўваюцца ў Архіве КДБ РБ і яго абласных філіялах. Менавіта адсюль былі ўзяты самыя сенсацыйныя «адкрыцці» з гісторыі Беларусі савецкага часу.

Прааналізуем гэтую новую крыніцу з пункту погляду каштоўнасці яе дзеля высвячэння падзей, што маюць дачыненне да ўсяго грамадства. Па-першае: пакуль няма Закона аб дзяржаўных архівах, рэгулюючага адносіны тых, хто захоўвае гістарычную інфармацыю, і тых, хто ёй карыстаецца, найбольш «небяспечныя» справы будуць «выпадаць» з увагі даследчыкаў. Бо на сённяшні дзень захочуць — дадуць справу, а не захочуць — не дадуць. Апеляваць няма да каго. І такая сітуацыя не толькі ў архівах КДБ. Акрамя таго, частка спраў згублена падчас вайны. Так, справа сваяка Купалы Раманоўскага Ю. адсутнічае /звесткі аб ім можна знайсці ў другой справе — Гудовіча І./. А пра Аблачымскіх наогул інфармацыі не захавалася. Нельга атрымаць інфармацыю і пра тых, хто яшчэ не рэабілітаваны. Па-другое: сам змест следчай справы не заўсёды адпавядае таму, што адбывалася ў жыцці. Асабліва гэта мае дачыненне да палітычных працэсаў аб контррэвалюцыйных арганізацыях, як іх называлі ў 30-я гады.

Справаводства палітычнага вышуку мела некалькі форм: дадзеныя ўліку, агентурныя распрацоўкі, справы-фармуляры /іх называюць яшчэ «дасье»/, ліцерныя справы. Усё гэта тычылася аператыўных матэрыялаў і служыла падставай да ўзбуджэння крымінальнай справы. Грыф «захоўваць вечна» атрымоўвалі толькі тыя справы, якія «пацвердзіліся» ў выніку праходжання праз суд ці орган, які меў судовыя паўнамоцтвы /людзі былі асуджаны/. У следчую справу аператыўныя матэрыялы ўключаліся пастолькі, паколькі яны маглі быць пацверджаны ў ходзе следства. У другой палове 30-х гадоў, калі колькасць іншадумцаў стала значнай і на афармленне следства не хапала часу, у следчую справу ўключаліся нават не ўсе пратаколы допытаў і асабістых ставак. Асуджаліся нават па так званых «альбомных спісах», не кажучы ўжо пра скарачэнне зместу саміх паказанняў.

Следчая справа вельмі суб'ектыўная па змесце, бо ўключае толькі тое, што лічыў неабходным унесці сюды следчы, што на яго думку з'яўлялася крыміналам. Скажэнне інфармацыі адбывалася і з боку саміх падследных, нехта забыў і перабольшыў падзеі, нехта не хацеў сказаць, нехта змяніў.

Так, інфармацыя аб тым, што БНР атрымала ад «гаспадарлівых немцаў» мільён субсідый таварамі, якую спадар Калеснік узяў з паказанняў В. Ластоўскага, не зусім дакладная. Матэрыялы былога партыйнага архіва сведчаць, што ўрадаўцы заключылі гандлёвае пагадненне з нямецкай фірмай «Івэг» — за атрыманыя тавары трэба было праз пэўны час вярнуць грошы. Фірма, літаральна кажучы, надула ўрадаўцаў — абутак, адзенне, іншыя гаспадарчыя тавары былі такой нізкай якасці, што іх нельга было прадаць нават па сабекошце. Але, нягледзячы на гэта, частка кіраўніцтва БНР прытрымлівалася погляду, што з палітычных меркаванняў трэба кантакты з фірмай падтрымліваць, частка лічыла неабходным вярнуць фірме як тавары, а не грошы. У гэтым сутнасць канфлікту.

Карыстацца толькі следчай справай як дакладнай крыніцай нельга, асабліва калі размова ідзе пра падзеі 20—30-х гадоў. Тым больш рабіць па ёй нейкія высновы.

Так склалася, што на Беларусі ў XX стагоддзі найбольш палітычна актыўнай і таму найбольш небяспечнай для таталітарнай дзяржавы часткай грамадства была інтэлігенцыя і, у першую чаргу, — пісьменнікі. Каб пазбавіцца небяспекі, былі абраны два шляхі: адлучэнне пісьменніка ад чытачоў /тут былі розныя спосабы — ад палітычнай цэнзуры да фізічнага вынішчэння/ і патрабаванне ад пісьменніка праяўлення лаяльнасці да ўлады. І не толькі ў творах. З улікам абставін тым ці іншым творцам ці асобам з іх асяроддзя прапанавалася супрацоўніцтва з ДПУ-НКУС. Даўшыя згоду належалі да так званай «осведомительной сети» — ніжэйшай ступені іерархіі супрацоўнікаў палітычнага вышуку. На Беларусі «осведомов» называлі «сачкамі», бо менавіта яны павінны былі сачыць і дакладваць аб усіх праявах контррэвалюцыйнасці сярод інтэлігенцыі. Данясенні «сачкоў» у следчую справу не ўключаліся. Імёны іх захоўваліся і захоўваюцца ў тайне /не горш чым у польскай дыфензіве/ — папрок сп. Калесніка ў адрас КДБ тут залішні. Але варункі палітычнага жыцця тагачаснай Беларусі ўносілі свае папраўкі ў дзейнасць спецслужб. Ад абвінавачвання ў контррэвалюцыйнасці ў 30-я гады не быў пазбаўлены ніхто — ні «сачкі», ні «сексоты», ні рэзідэнты, ні легальныя супрацоўнікі апарату НКУС. І тады на іх таксама заводзілася следчая справа. Так, не пазбавіўся абвінавачвання ў сувязі з нацыянал-дэмакратамі нават рэзідэнт ДПУ Беларусі А. Ульянаў, які ажыццяўляў аперацыю па перадачы мандатаў БНР у БССР.

Становішча «сачкоў» пад следствам было складаным — яны абвінавачваліся не толькі ў антысавецкай дзейнасці, а і ў падмане спецслужб. Меру гэтага падману, а значыць і меру пакарання павінен быў вызначыць следчы. Таму і дапытваліся ў І. Краскоўскага, што яму паведаміла П. Мядзёлка. І паколькі абвінавачвалася яна «як усе», крыміналу, відаць, не знайшлі. Каб пазбегнуць пакарання, ці заслужыць большую павагу, некаторыя з «сачкоў» становіліся яшчэ больш паслужлівымі — працавалі ў якасці камернай, а потым і лагернай агентуры. Асуджаныя разам з усімі, яны, як правіла, датэрмінова вызваляліся: за правакатарства гарантавалася жыццё. Бывала, што справа «сачка», які спачатку праходзіў па калектыўнай справе, выдзялялася ў асобную, і ён нават не даходзіў да суда. Не буду прыводзіць прыклады — Бог тым людзям суддзя, а не мы. І прозвішча П. Мядзёлкі, як «сачка», таксама б засталося невядомым, каб не Купала. Вялікі Паэт і таталітарная дзяржава — непрымірымыя супрацьлеглясці, вынік барацьбы паміж якімі — знішчэнне Паэта як Творцы. Чароўная Бандароўна павінна інфармаваць аб ім спецслужбы, былыя сябры і паплечнікі робяцца правакатарамі, згублены і папраны ідэалы юнацтва — кожнай з гэтых падзей дастаткова, каб забіць Паэта. І калі мы працавалі над фільмам «Ніколі я не паміраў...», галоўнае было засяродзіць увагу менавіта на гэтым.

І яшчэ аб адным мне хацелася сказаць. Камуністычная гісторыя Беларусі мела дзве фарбы — чорную і белую. Класавы падыход дзяліў усіх на сваіх, якія былі станоўча ацэнены, і чужых — ворагаў народа. Нешта падобнае адбываецца і зараз, толькі наадварот. Залішне напамінаць, што ў рэальным жыцці знайсці абсалютнага злодзея гэтак жа цяжка, як і абсалютнага дабрадзея. Вядома, кожны чалавек мае правы выбіраць для сябе ідэалы, у тым ліку і «жывы этычны эталон адраджэнскага руху». Але калі робіцца спроба зрабіць свой ідэал ідэалам грамадства, тут справа іншая. На жаль, Паўліна Мядзёлка не можа быць «этычным эталонам» — аб гэтым лепш за ўсё сведчаць яе запіскі, якія пачаў друкаваць часопіс «Полымя». Менавіта тут дастаткова прасторы «шукальнікам танных сенсацый». І шкада, што У. Калеснік, робячы змястоўны ўступ да ўспамінаў П. Мядзёлкі, не акрэсліў вельмі суб'ектыўны погляд на тых людзей, з кім пашчасціла ёй быць знаёмай. Асабліва гэта тычыцца Палуты Бадуновай і Уладзіславы Станкевіч.

У архівах КДБ РБ захавалася шмат следчых спраў і на «эліту», і на простых людзей. Апынуўшыся на мяжы жыцця і смерці, кожны па-свойму паводзіў сябе ў гэтай экстрэмальнай сітуацыі. І калі, па словах сп. Калесніка, кіраўніцтва спецслужб рэспублікі абяцае аддаць следчыя справы «на агульны рэжым захоўвання і карыстання», успрымаць гэта абяцанне з «прыемнасцю і палёгкай» я не магу. Бо ўжо і спадар Калеснік, які, па яго словах, і бачыў жа толькі частку «справы СВБ», пачынае рабіць «суд гісторыі»: гэты — добры, а гэты — не. Не высветліўшы да канца дзеянне механізма сістэмы палітычнага вышуку, яго ролі ў грамадстве, нельга брацца за персаналіі. На жаль, рассакрэціць на дзейнасць таталітарнай дзяржавы, кіраўніцтва КДБ не абяцае, хоць і ўзрост дакументаў і новая палітычная сітуацыя дазваляюць гэта зрабіць. Таму яшчэ доўга не будзе спасылак на крыніцы ў працах навукоўцаў — рабіць іх проста забаронена.

**Таццяна ПРОЦЬКА,**
**дактарант Інстытута гісторыі АН Беларусі**

***Мінулым летам па ўсёй рэспубліцы пахла дымам. Дым стаяў на вуліцах, ім прапахлі дамы, дрэвы, прыдарожныя газоны. Ён на ўсё лета «пасяліўся» ў многіх гарадскіх і вясковых кватэрах. Людзі клаліся спаць з гэтым пахам, з ім прачыналіся.***
***Уся рэспубліка практычна была ў агні — гарэлі лясы, тарфянікі, вёскі. Гінулі людзі...***
***А мне ўспаміналася Сібір шасцідзесятых гадоў, калі тысячы маладых людзей па камсамольскіх пуцёўках паехалі за Урал асвойваць таежны край. Там я ўпершыню сутыкнуўся з жахлівым відовішчам — пажарам у тайзе. Помню, як мясцовыя людзі ў засмучэнніківалі галовамі: «Раней наша тайга гарэла вельмі рэдка, але прыйшлі чужынцы, і пачала гарэць яна амаль кожны год. Чужынцы тайгі не любяць, не ведаюць...»***
***«Па-таежнаму» гарэлі летась лясы па ўсёй Беларусі...***

ЭКАЛОГІЯ

# ЧУЖЫНЦЫ НА СВАЁЙ ЗЯМЛІ

## *Ці быў аналіз?*

Прайшоў год. Па логіцы — гэта павінен быць час вывадаў, выпраўлення хібаў, памылак, аналізу становішча, пераасэнсавання пяражытага. І што ж высветлілася?

Мне давялося гутарыць з многімі адказнымі работнікамі ведамстваў пажарнай аховы, і ўсе яны ў адзін голас тлумачылі: лета было гарачае, пажараў пазбегнуць цяжка. Гэта — з аднаго боку, а з другога — не хапала пажарных машын, процівагазаў, эфектыўных тэхналогій тушэння і, нарэшце, сродкаў.

Ну а якую шкоду нанеслі рэспубліцы леташнія пажары? На гэтую тэму мае субяседнікі, мне падалося, пазбягаюць гаварыць. Ды і што гаварыць, калі дакладных лічбаў да гэтага часу няма і ўжо, відаць, не будзе. Ніхто сёння дакладна не ведае, колькі згарэла лясоў, тарфянікаў, колькі і чаго згарэла, якія страты нанесены і г.д. Напрыклад, віцэ-прэзідэнт канцэрна «Белпалівагаз» Часлаў Круглінскі сказаў, што па іх ведамстве было ўсяго толькі чатырнаццаць пажараў, гарэла дзевяцьсот гектараў, згарэла сто дзесяць буртоў торфу. Але тут жа прызнаўся, што на дакладнасці гэтых лічбаў не настойвае — «пажарнай» справаздачы не існуе, звесткі перадаюцца па тэлефоне — а тут усё можа быць.

Намеснік начальніка Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра пажарнай бяспекі пры МУС падпалкоўнік Уладзімір Агееў прывёў такія лічбы: торф гарэў на плошчы 25946, а лес — на 70064 гектарах; знішчана трофу больш як мільён тон; лесу — шаснаццаць з паловай тысяч гектараў. Але і ён не гарантуе, што гэтыя дадзеныя адпавядаюць рэчаіснасці. Растлумачыў, што многія пажары проста «хаваюцца», пра іх не паведамляецца ў вышэйшыя інстанцыі.

Разнабой і ў падліку страт ад пажараў. На калегіі Дзяржкамэкалогіі была названа лічба — 600 мільёнаў рублёў. А начальнік галоўнага ўпраўлення пажарнай аховы МУС генерал Валерый Астапаў ацаніў страты ў 2 мільярды рублёў. Некаторыя не згодны і з гэтай лічбай. Мінлясгас, напрыклад, са спазненнем «знайшоў» яшчэ каля 2 тысяч гектараў лесу, які гарэў, але пра які міністэрства не ведала.

Адным словам, ні ведамствы, ні прыродаахоўныя органы, ні пажарныя службы пра леташнія пажары нічога дакладна сказаць не могуць.

Што ж тычыцца экалагічных страт, то іх, як гэта ні сумна, ніхто наогул не падлічваў. Гарэлі ўсё лета лясы, тарфянікі, а страт прыродзе ... не нанесена. Прычына адна: дагэтуль не распрацавана ў нас методыка вызначэння такіх страт. Вось, аказваецца, галаваломка і для вучоных, і для ўрадавых структур. Хто ж усё-такі разбярэцца з гэтым?

Тым не менш, многія афіцыйныя асобы без ценю сораму сцвярджаюць, што высновы з мінулагодняй трагедыі зроблены, вывучаны прычыны пажараў, эфектыўнасць метадаў і сродкаў тушэння. Але як можна рабіць высновы, грунтуючыся на нявывераных дадзеных? Як можна аналізаваць эфектыўнасць тэхналогій тушэння пажараў, калі гэтым пытаннем ні ў былым Саюзе, ні сёння ў Беларусі ніхто не займаецца?

Пажары мінулага года адносяцца, па ўсім відаць, да тых падзей, якія сёй-той хоча як мага хутчэй забыць. Ці не таму, што пажары агалілі многае з таго, што не хочацца паказваць?

## *Парадку няма... А ці быў ён?*

Лета было гарачае — з гэтым не паспрачаешся, і любы самы недарэчны выпадак мог, сапраўды, прывесці да пажару. Але калі гараць лясы, то, напрыклад, у заходніх краінах гэта тэрыторыя аб'яўляецца зонай бедства. Туды накіроўваюцца моцныя пажарныя сілы, авіяцыя, становішча кантралюецца ўрадам.

«Там парадак, а ў нас яго няма». Вось фраза, якая зрабілася амаль што дзяжурнай.

Аб тым, што ў нашым грамадстве не стае парадку, сёння гавораць усе: палітыкі, эканамісты, гаспадарнікі, кіраўнікі ведамстваў... Гавораць часта са шкадаваннем — раней, маўляў, быў парадак, а цяпер няма.

Калі гэта раней? Я нагадваў сваім субяседнікам пра пажары застойных 1975, 1979, 1983, 1986 гадоў — тады быў парадак? Мне даказвалі, што парадак знік недзе ў 60-я гады, калі пасля сталінскай дысцыпліны наступіла хрушчоўская адліга. Адтуль, маўляў, і пайшла анархія.

І падалося мне, што ў нас, часам, блытаюць такія паняцці, як дысцыпліна і страх, як законнасць і «тэлефоннае» права. Прыпіскі, адпіскі, маніпуляцыі са статыстыкай, скажэнне фактаў існавалі ва ўсе гады савецкай улады. Не сказаць усю праўду, прыхаваць тое, што адмоўна адаб'ецца на кар'еры, і разам з тым з помпай паказаць дасягненні, нават калі іх і няма, — гэта наша рэчаіснасць.

Згодзен, страх падтрымлівае парадак, але толькі да таго моманту, пакуль існуе. Але вось страх знікае і, аказваецца, што адразу за яго мяжой няма нічога стваральнага — безадказнасць і ўсёдазволенасць. І леташнія пажары таму доказ.

Ва ўсе часы лічылася, што агульнае няшчасце згуртоўвае, аб'ядноўвае людзей. Аднак, як гэта ні падасца на першы погляд дзіўным, савецкая ўлада, якая ў сваіх лозунгах бесперапынна заклікала да выхавання ў чалавеку пачуцця калектывізму, на самай справе выхавала ў яго глыбокае пачуццё абыякавасці. Уявіце такі малюнак. Непадалёку ад палеткаў калгаса «Іскра» Пухавіцкага раёна гарыць лес. Усе гэта бачаць, і ніхто не звяртае ўвагі — няхай гарыць. Толькі калі полымя перакінулася цераз дарогу на палі, калгаснікі кінуліся тушыць агонь. Пажары, як гэта ні дзіўна, не ядналі людзей, а раз'ядноўвалі. Вясковыя ці раённыя пажарныя дружыны, дзе яны яшчэ існуюць, падключаліся да тушэння агню толькі тады, калі загаралася збажына ці калгасныя пабудовы. А лясныя пажарнікі з палёгкай выціралі з твару пот і тэлефанавалі ў Мінск, што ў іх усё ў парадку, хаця побач гарэлі калгасныя пасевы ці тарфянікі. Здаралася, што і самі гаспадаркі не ведалі, што робіцца на іх землях. Ч.Круглінскі расказваў, што аднойчы пра пажар на торфапрадпрыемстве «Татарка» Асіповіцкага раёна яму пазванілі з Мінска з урадавай камісіі па надзвычайных сітуацыях. «Званю дырэктару прадпрыемства, — расказваў Круглінскі, — а той у адказ, не маё гарыць. Гэты лес за дарогай». Потым высветлілася, што загарэлася і ў яго гаспадарцы — агонь «пераскочыў» цераз дарогу.

А што ж мясцовыя ўлады? Можа, яны змаглі мабілізаваць народ на барацьбу са стыхіяй? Можа, у іх створаны нейкія штабы, наладжана ўзаемадзеянне з сельскімі гаспадаркамі, лясніцтвамі, торфапрадпрыемствамі? Не, мясцовыя ўлады, па словах Круглінскага, званяць да іх у Мінск і паведамляюць: «Ваша прадпрыемства гарыць».

А чаму самім не прыняць меры? Аказваецца, гэта не справа савецкай улады. Савецкая ўлада на месцах толькі сцвярджае: «Выкручвайцеся самі». Іржышча гарыць, полымя коціцца да вёскі, усе гэта бачаць і ніхто не тушыць. Пажарнікі расказвалі, што часта ў час пажараў бачылі п'яных сялян, якія стаялі побач, глядзелі, жартавалі, але нічога не рабілі.

Выходзіць, не толькі асобныя людзі і гаспадаркі ўспрынялі нашу куртатую дэмакратыю як усёдазволенасць, але і мясцовыя структуры ўлады. Такое становішча не ўзнікае адразу. Гэта той, калі можна так сказаць, генетычны здабытак, які мы набылі за гады будаўніцтва камуністычнага грамадства і які сёння толькі больш выразна акрэсліўся.

## *Культура і законнасць*

У любым цывілізаваным грамадстве парадак грунтуецца на чалавечай культуры і законнасці. Тое, што рабілася ў рэспубліцы летась у час пажараў — з'ява ненармальная, бо пярэчыць і юрыдычным і маральным нормам. Спрадвеку пажары на нашай зямлі былі бядою агульнай. Што б ні гарэла — тушыла ўся вёска, уся грамада. Фарміраваўся пэўны пласт чалавечай культуры, чалавечых адносін, якія вызначалі паводзіны людзей у тых ці іншых жыццёвых сітуацыях. І рэгуляваліся гэтыя паводзіны не страхам, а пастаянным адчуваннем адказнасці перад самім сабой, грамадой, прыродай.

Што ж адбылося ў гэтым сэнсе з людзьмі сёння? Відаць, многія састаўныя агульнай чалавечай культуры не толькі не набылі свайго далейшага развіцця, а зніклі і тое, што было назапашана ў генетычнай памяці народа.

Дарэчы, «праблема недахопу культуры ў людзей» раптам зрабілася адным з галоўных прадметаў абмеркавання на самых розных узроўнях, дзе ішла размова аб прычынах пажараў і ведамасных няўвязках. Праўда, слова культура тут ужывалася ў чыста прагматычным сэнсе — людзі паляць вогнішчы ў лесе, падпальваюць сухую траву, слаба рэагуюць на заклікі змагацца з пажарамі і да т.п. Сёй-той з чыноўнікаў нават гатоў быў вітаць закон аб забароне наведваць грамадзянамі лес. «Усяму вінои некультурныя паводзіны людзей на прыродзе», — так сфармуляваў адзін з начальнікаў галоўную прычыну ўзнікнення пажараў. «Вінаватыя», як бачым, знойдзены.

Але бачыць праблему толькі ў гэтым, значыць моцна памыляцца. Прычын і ўзнікнення пажараў, і няўмення з імі эфектыўна змагацца — шмат. Асноўная з іх, на маю думку, затанная сістэма гаспадарання. Генерал Астапаў гаварыў мне: «Мы з-за бязглуздай меліярацыі ператварылі зямлю ў порах. Любаншчына, напрыклад,— пайраёна пораху. Там толькі асфальт не гарыць»...

Так, меліярацыя на Беларусі праводзілася дрэнна. Да таго ж, у тым выглядзе, што прымянялася ў нас, вяла і да разбурэння векавой культуры чалавека, яго адносін да прыроды, да тых каштоўнасцей, якія для яго былі святымі. У рэшце рэшт, да разбурэння душы чалавека. .

Пажары, якія штогод нішчаць тысячы гектараў тарфянікаў, — працяг гэтага разбуральнага працэсу. У выніку — гарыць народнае дабро, мільярды рублёў ператвараюцца ў попел і дым. Напрыклад, толькі для аднаўлення спаленых вёсак Сяльцы і Калюга Глускага раёна спатрэбілася 140 мільёнаў рублёў.

У гэтых працэсах няма нічога дзіўнага. Адабраўшы ў людзей права на ўласнасць, дзяржава адабрала разам з тым і права на адказнасць. Людзі і прыроду, якая бязлітасна знішчаецца, таксама ўспрымаюць як чужую, нічыйную.

І яшчэ. У рэспубліцы не створана прававой асновы для пажарнай бяспекі. Закон і беззаконнасць — гэта культура і бескультур'е. Тут цесная ўзаемасувязь.

І ўсё-такі, як сёння ў рэспубліцы арганізавана пажарная бяспека прыродных рэсурсаў? Шчыра скажам — дрэнна. Пажарныя сілы раскіданы па больш чым дзесяці ведамствах. І ўсе яны практычна не дзеяздольныя. Людзей мала. А тыя, што ёсць, не маюць спецыяльнай падрыхтоўкі /акрамя пажарнай аховы Мінлясгаса/. Пажарныя каманды часта значацца толькі на паперы. У многіх сельскіх гаспадарках пажарныя машыны разукамплектаваны або выкарыстоўваюцца для паліву агароднiны ці мыцця сельгастэхнікі. Дырэктар торфапрадпрыемства «Смалявіцкае» пажарную каманду ўвогуле ліквідаваў, а пажарнае дэпо здаў у арэнду малому прадпрыемству.

Такіх прыкладаў можна прыводзіць доўга. Уражанне такое, што рэспубліка махнула рукой на пажары. Як гэта ні дзіўна, але і ўрад таксама перастаў як след унікаць у праблемы пажарнай бяспекі. Гэта асабліва добра відаць на стаўленні Саўміна рэспублікі да пажарнай службы Мінлясгаса.

Іван Мыслейка, намеснік начальніка ўпраўлення лясной і паляўнічай гаспадаркі /так называецца пасада, хаця займаецца ён пытаннямі пажарнай бяспекі лясоў/, расказваў, што да 1988 года ў міністэрстве быў аддзел аховы лясоў. Але ўрад, відаць, палічыў гэта раскошай і аддзел ліквідавалі. На месцах, у лясгасах, ёсць сякая-такая процiпажарная тэхніка, але выкарыстоўваецца яна блага — не хапае запасных дэталяў, паліва, не хапае сродкаў, каб іх набыць. Саўмін на гэтыя мэты грошай не дае. Летась, праўда, выдзеліў 132 мільёны рублёў, ды толькі для таго, каб расплаціцца з арганізацыямі, якія дапамагалі тушыць пажары. Што тычыцца Мінлясгаса, дык тут з наяўных 278 пажарных машын больш паловы выпрацавала свой рэсурс. Патрэбна новая тэхніка: але яе выпускаюць толькі ў Расіі і на Украіне. Можна было б наладзіць выпуск сваіх пажарных машын на базе «МАЗаў», але...

Для арганізацыі прафесійнай падрыхтоўкі пажарнікаў таксама грошы ў бюджэце не прадугледжаны.

У былым Саюзе прымаліся схаластычныя пустыя пастановы па пажарнай бяспецы, і сёння складваецца такая ж сітуацыя. Летась у разгар пажараў рэспубліканская камісія па надзвычайных сітуацыях прыняла нямала рашэнняў, падобных адно на адно: узмацніць, абавязаць, прыцягнуць... А словы без канкрэтных спраў — пусты звон. На 1993 год, напрыклад, урад рэспублікі павінен выдзеліць пажарнай ахове Мінлясгаса чатыры мільярды 288 мільёнаў рублёў. На пачатак красавіка не было выдзелена ні капейкі. Дагэтуль у рэспубліцы не прыняты закон аб пажарнай бяспецы, замест яго спрабуюць кіравацца рознымі адпаведнымі пастановамі, інструкцыямі, статутамі. Таму і пануе ў гэтай справе анархія, абыякавасць, ведамасныя амбіцыі.

Мяркуючы па прагнозах метэаслужбы, у гэтым годзе нас чакае засуха не меншая, чым летась. Ужо паступаюць сігналы аб лясных пажарах, якія пачаліся на Гомельшчыне...

Сібіракі калісьці абураліся — чужынцы паляць тайгу. Так, тайга для прыезджых маладых людзей была часовым прытулкам. А чаму ж і на сваёй зямлі многія з нас паводзяць сябе, як чужынцы?

**Алесь КАЗАННІКАЎ**

***Колькі часу назад адбылося пашыранае пасяджэнне Рады Саюза пісьменнікаў Беларусі па праблемах беларускага правапісу. З дакладам выступіў А.Яскевіч. У гаворцы прынялі ўдзел члены Рады, пісьменнікі, супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа АН Беларусі. Прапаноўвалася паскорыць стварэнне і актывізаваць дзейнасць дзяржаўнай Правапіснай камісіі і Кантрольнай інспекцыі па ўрэгуляванні пытанняў мовы. Я.Брыль, У.Юрэвіч, І.Шамякін, намеснік міністра адукацыі Л.Сухнат, дырэктар Інстытута мовазнаўства АН Беларусі А.Падлужны, А.Яскевіч выказаліся за непажаданасць карэннага рэфармавання правапісу пры сённяшнім нестабільным сацыяльна-эканамічным становішчы ў грамадстве.***
***Ніжэй друкуем артыкул А.Яскевіча, зроблены на аснове даклада.***

# ПРАВАПІС:

## ВЯРТАННЕ ЦІ ЎСЁ Ж УДАСКАНАЛЕННЕ

Даўно заўважана, што найбольшыя непаразуменні паміж людзьмі здараюцца не па наўмысных намерах, а з нежадання /ці, можа, няўмення/ выслухаць адзін аднаго. І сённяшняе бязладдзе ў правапісе, што адкінула ўнармаванасць нашае мовы ледзь не да «нашаніўскай» пары, адбываецца не ў малой меры з-за таго, што паміж абаронцамі «тарашкевіцы» і прыхільнікамі абачлівага ўдасканалення правапісу не дасягнута, так бы мовіць, *узгаднення зыходнай пазіцыі.*

А яна, гэтая зыходная пазіцыя, ва ўмовах білінгвістычнай сітуацыі, патрабуе, можа, як ніколі, аднадушша. Драматызм сённяшняга нацыянальнага становішча вымагае ад мовы беларускага этнасу, як ад мовы дзяржаўнай, максімальна вызначыцца ў сваіх самабытных асаблівасцях, калі гаварыць больш дакладна, у сваёй старажытнакаранёвай славянскасці. У рэкамендацыях міжнародных мовазнаўчых кангрэсаў прызнана мэтазгоднай моўная палітыка, што ў абставінах блізкароднаснага асяроддзя дазваляла б унікаць абсалютнага супадзення элементаў, павышаць спецыфіку і ўстойлівасць нацыянальных моўных сістэм, засцерагаючы ад размывання іх межаў.

Ды ўсё пытанне, якім шляхам ісці? Ці развіваць яшчэ і сёння малады, у росквіце сіл арганізм нашай літаратурнай мовы да міжнародных узораў, ці штучна затрымаць на нашаніўска-тарашкевічавым узроўні?

Я тут нічога не перабольшваю. Ці ж не вынікам усеагульнай незадаволенасці існаваўшай арфаграфіяй, з чым згаджаўся і сам Б.Тарашкевіч, з'явілася міжнародная па сутнасці правапісная канферэнцыя 1926 г. і падрыхтаваныя яе камісіяй рашэнні 1929 — 1930 гадоў, галоўнымі з якіх былі скасаванне на пісьме асіміляцыйнага змякчэння /прапановы Якуба Коласа, Вацлава Ластоўскага, Язэпа Лёсіка/ і іншых транскрыпцыйных элементаў у правапісе, якіх па пачатковасці вопыту проста не мог пазбегнуць наш першы таленавіты ўнармавальнік. Я доўга дашукваўся таямніцы пастановы, ахрышчанай сёння як «наркомаўская», ад 26.08.1933 года, якая, дарэчы, называлася «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу». Заснавальнасць яе на выніках працы правапіснай камісіі 1926 — 1930 гадоў відавочная, хоць атрымаць уяўленне, якой яна магла быць у «чыстым» выглядзе, без абскурантысцкага партыйнага ўмяшання, мы, відаць, не зможам ніколі. Асабліва штучная іншароднасць палітызаваных дадаткаў да яе, нібыта ўхваленых заклінаннямі супраць праяў нацдэмаўшчыны ў мове, у чым спрабавала сталася б для нацыі небяспечным эксперыментам, з якога нямала пасмяяліся б ды і пакарысталіся б нашы нядобразычліўцы.

За час супрацоўніцтва ў правапіснай камісіі пры Таварыстве беларускай мовы мне давялося блізка сысціся з абаронцамі розных поглядаў і, у прыватнасці, прыхільнікамі ўдасканалення беларускага правапісу па мадэлі «тарашкевіцы». Нарэшце, і ім у выніку шматлікіх дыскусій давялося пераканацца, *што зварот да ранняя нашай арфаграфіі*, без спроб яе ўдасканалення, выглядае сёння проста наіўным. І асабіста я цаню, напрыклад, выключную вынаходніцкую думку Вінцука Вячоркі, сапраўды здатнага генерыраваць новыя ідэі ў гэтым пытанні, а ў Пётры Садоўскага /ён, праўда, не сябра камісіі/ здольнасць разумна пераадольваць аднойчы прыняты погляд і ў выніку ўсебаковага абгаварэння схіляцца да мэтазгоднага лінгвістычнага рашэння.

Хоць за гэты час столькі перагаворана на нашых сходах і ў друку па рэформе правапісу, на мой погляд, пытанне ўжо пачынае парадкам заблытвацца з-за таго, што нам не стае глыбіннай канцэпцыі, я б нават сказаў, філасофіі нацыянальнай мовы. Усё заглушыў аматарскі, у лепшым выпадку палітычна-адраджэнскі падыход і зусім не цэніцца думка спецыялістаў.

Якія ж фенаменальныя моманты бачацца мне ў нашай мове, без уліку якіх мы не зможам дасягнуць узорнага стану айчыннага правапісу, наблізіць яго, як сёння прынята казаць, да сучасных міжнародных стандартаў?

У пытаннях гэтых, па-першае, важна зыходзіць не са штучна прыцягнутых асаблівасцей, а з феномену глыбіннай, напаўзабытай ужо намі самабытнасці беларускай мовы, якая грунтуецца на непасрэднай *спадчыннай сувязі яе з апошняй славянскай* прарадзімай і рэдкай захаванасці славянскіх рысаў у новы час.

Білінгвістычнае становішча натуральна вымушае нас да параўнання яе з сённяшнімі ўсходнеславянскімі і заходнеславянскімі суседзямі. У нашай мове асноўны слоўнікавы запас, вядома, відазменены з тае пары бясконцымі карэляцыямі, перараскладаннямі, апрошчаннямі і дыфузіямі, можна сказаць, з дзівосна-загадкавай пераемнасцю захаваў у сабе аснову славянскіх каранёў. Шлюб /слюбіціся/, нашчадак /чадо/, балазе /благо/, бярэма /бремя/, вока /око/, вельмі /ад параўн. формы веле/, лепш /аналагічна — ад лепи/, лытка /лысть/, помста /месть/, хвароба /хворь/, змрок цябе, сябе/, у рускай яна відазменена на меня, тебя, себя.

Можна рабіць бясконцы пералік захаваных у нашай мове карэнна славянскіх архетыпаў, ад якіх іншыя мовы адступілі. Беларускія дзеясловы цяперашняга і будучага часу з націскам на канчатках вымаўляюцца згодна са славянскім вымаўленнем /даеш, жывеш, смяецца, гнецца, няймецца/ у рускай е пераходзіць у ё. Асабліва старажытны беларускі інфінітыў: *легчы, цячы, бегчы, даці* /пар. рус. лечь, течь, бежать, дать/.

Заўважым, што наша так званае моцнае аканне, як і асіміляцыйнае змякчэнне сібілянтаў пад уплывам наступнага мяккага, што маркіруюць характэрную асаблівасць нашай мовы, таксама рэшткі старажытных рысаў, вынікі незакончанага працэсу падзення былога адкрытага складу.

Славянскі эфект рускай мове надаюць захаваныя спецыфічна старaславянскія словаўтваральныя элементы ро, ло і ущ, ющ, нарэшце, багацце царкоўнаславянізмаў, але зменаў у ёй куды больш.

Такія мовазнаўчыя аўтарытэты рускага замежжа, як А.В.Ісачанка, Г.Ю.Шавялёў, вытлумачваюць асаблівасці айчыннага слова ўскраінным становішчам славянскага дыялекту /ці дыялектаў/, што ляглі ў аснову фарміравання рускай мовы.

Нельга не аддаць даніны захаплення дасканалай распрацаванасці рускай літаратурнай мовы. І згадваю я пра адыход ад многіх старажытных рысаў у ёй, можа, толькі для нашых мясцовых русафілаў, каб хоць успомнілі, што грэблівыя адносіны да беларускіх рысаў — гэта, па меншай меры, пагарджэнне спрадвечна славянскім.

Другая немалаважная асаблівасць, з якой неабходна зыходзіць пры ўдасканаленні нашага правапісу, гэта маладосць новай беларускай літаратурнай мовы, параўнальна небагатая практыка яе кадыфікацыі. У нас, можна сказаць, мала развіты вопыт правапіснай рэфлексіі, слабае ўяўленне, з чаго мы выйшлі, што мы ёсць, куды ідзем у нашай арфаграфіі.

Асноўная ключавая асаблівасць нашай новай літаратурнай мовы і яе правапісу — узрошчанасць на прастамоўных асновах, у чым мы прызвычаіліся бачыць толькі вартасці, не падазраючы слабасцей. Мы пры кожным выпадку не прамінем пахваліцца фанетычным прынцыпам нашага правапісу і бачым у гэтым няйнакш як ідэал арфаграфіі.

Аднак калі ўлічваць, што ў аснову літаратурнай мовы кладзецца адзін, звычайна сярэдзінны дыялект, пры адсутнасці тыпізацыі ў правапісе, што дасягаецца за кошт марфалагічнага прынцыпу, цяжка ўпісваюцца, не па-сваяцку пачуваюць сябе носьбіты іншых дыялектаў. А на дыялекты і паддыялекты Беларусь нябедная, пры гэтым праз «тарашкевіцу» яшчэ на асобны статус прэтэндуюць ашмянска-віленскія гаворкі.

У старых мовазнаўцаў яшчэ можна знайсці натхнёныя словы пра вуснае маўленне і пра адрозненне правіл яго ўзнаўлення ў літаратурнай мове:

«Патрабаванні вуснай мовы, г.зн. гаворкі і чытання, — як лічыць А.І.Арлоў, — заключаюцца ў аблегчанні органаў рота пры вымаўленні гукаў, што ўтвараюць адпаведнае слова. Адсюль узнікае найгалоўнейшая вартасць гаворкі і чытання — мілагучнасць. Паводле законаў эўфаніі, *слова — гэта музычны акорд, дзе ўсялякая нота павінна быць чутна не на шкоду іншым нотам...*

Мілагучнасці гаворкі і чытання няма справы да словаўтваральнага складу слова пры яго прамаўленні: тут галоўнае правіла — не ўтвараць ніякай нацяжкі ў вымаўленні зычных гукаў, што суседнічаюць з іншымі зычнымі і паўгалоснымі гукамі...

У выніку гэтага асноўнага закона, вымагаемага эўфаніяй, у гаворцы і чытанні з'яўляецца змякчэнне звонкіх зычных у гукі глухія і, наадварот, змяненне галосных гукаў [1] і г.д.

Узгоднена гарманічнае спалучэнне гукаў у вуснай мове, на думку вучонага, бадай што не паддаецца азначэнню знакамі пісьмовымі. Ды нават калі б давялося вынайсці гэтыя пісьмовыя знакі, у колькі б кроць павінен быў бы павялічыцца наш буквар. Аднак мовазнаўства заключаецца не ў адным маўленні і чытанні, яму аднолькава ўласціва пісьмовае адлюстраванне маўлення і мыслення, што складае аснову і сутнасць мовы літаратурнай, якая кіруецца іншымі метадамі мовазнаўства, метадам філалагічным, цалкам адрозным ад метаду слыхавога.

Мы ж нібы хочам абысці той факт, што вуснае маўленне жыве надзвычай адрознымі ад пісьмовае мовы законамі. Вусная мова — гэта суцэльныя асіміляцыі, карэляцыі гукаў. Правапіс, даўшы волю толькі найбольш мэтазгодным з іх, *заклікaны абмяжоўваць гэтыя* моўныя дэфармацыі.

Мовазнаўцы нашы ўтойваюць, што праз такія скразныя асіміляцыі, як змякчэнне сібілянтаў, моцнае аканне /яканне/ і іншыя спецыфічна вымаўляльныя карэляцыі, неабмежавана допушчаныя па маладосці правапіснага вопыту ў моватворчай практыцы «Нашай Нівы», пазней Б.Тарашкевічам, гук у нашай мове аказваецца вельмі акамадаваны, размыты.

Не забудзем, што першае правіла артыкуляцыі /ад лац. articulatio/ — гэта членападзельна, выразна вымаўляць. Намі знутры гэтыя якасці, магчыма, не вельмі ўсведамляюцца, але з боку гэта кантрастна кідаецца ў вочы, і аўтарытэтныя славісты неаднойчы паказвалі на непажаданыя вынікі допушчэння ўсемагчымых карэляцый у пісьмовую мову, пры неабмежаваным замацаванні іх у арфаграфіі.

Галоўным дасягненнем правапіснай камісіі 1926 — 1930 гг., нягледзячы на ўсю неспрыяльнасць умоў яе працы, трэба лічыць пераадоленне толькі вымаўляльна фанетычнага прынцыпу ў арфаграфіі і надання ёй марфалагічных, тыпізуючых рыс, што ўяўляла сабой сапраўдную перспектыву станаўлення нацыянальнага правапісу. І ці ж не развіццём гэтых тэндэнцый мы найбольш павінны быць заклапочаны ў нашых сённяшніх прапановах?

Нарэшце, трэцяе, пра што належыць асабліва памятаць у сувязі з нашымі правапіснымі праблемамі, — гэта пра загадкавую таямніцу гукавой сістэмы нацыянальнай мовы і неабходнасць яе адэкватнага адлюстравання ў алфавіце.

Выяўляецца, што ідэальна распрацаваны алфавіт /тут тэндэнцыя не да спрашчэння, а да ўскладнення/, які адэкватна пакрывае ўсю гукавую сістэму нацыянальнай мовы, уяўляе сабой найдасканалейшую перыядычную сістэму /М.С.Ельцын/ паводле законаў гарманічнага рада, якая ў загадкавай дакладнасці дубліруе гукаўтварэнне артыкуляцыйнага апарата чалавека. З перыядызмам алфавітнай сістэмы звязаны і феномен лічбавых значэнняў, замацаваных за кожным гукам-літарай у старажытных пісьменнасцях. У дадзеным выпадку лічбы — гэта індэксы хвалевых значэнняў гукаў, праўда, па лямдомнай цэлалікавай шкале гарманічнага інтэрвалу.

Перыядызм алфавіта, у дадзеным выпадку перш за ўсё як сістэмнасць, структурнасць працэсу гука-моваўтварэння, якраз і павінны пакласці мяжу адвольнасці карэляцыям, у першую чаргу бессістэмнасці ў гукаўтварэнні, чаргаванні і інш. Вядома, у вуснай мове з яе

[1] *Орлов А.И. Полный филологический словарь русского языка. т. 1, М., 1884. с. 3.*

засведчыць сваю лаяльнасць тагачасная пісьменніцкая грамадскасць, успрымалася як недарэчнасць і ў выніку дыскусій 1949 — 1957 гг. і правапісных удакладненняў пазнейшага часу была ў асноўным зжыта.

Сёння мала ўжо прыгадваецца, што пасля правапіснай рэформы распачаўся паход за амаль тоеснае збліжэнне беларускай мовы з рускай /прапановы К.Гурскага, В.Барысёнка, Р.Лынькова і інш./, але нават у абставінах штодзённых рэпрэсій у грамадскасці і тады ставала мужнасці адхіліць пасяганні на самабытнасць роднага слова.

З часу адмены /спрашчэння, рэфармавання, ці як гэта мы назавем/ правапісных нормаў граматык Я.Лёсіка і Б.Тарашкевіча мінае шосты дзесятак гадоў, паласа, пры *ўсёй яе неспрыяльнасці*, актыўнай, у тым ліку пісьменніцкай моватворчасці, неацэнную важкасць якой у галіне стылявой аранжыроўкі ды і кадыфікацыі літаратурнай мовы хто возьмецца аспрэчваць. У вышэйшай ступені несправядліва, не па-гаспадарску было б адкінуць напружаннейшую працу генія мовы гэтай пары і закансервавацца на дасягненнях дзесятых-дваццатых гадоў.

Калі ж нават дапусціць на момант супрацьлеглае, што ўсе гэтыя дзесяцігоддзі былі марнымі для нашай мовы, дык само ўжо па сабе скасаванне існуючага правапісу, замена на мову дыяспары ў сённяшніх абставінах, як хто-ніхто з разгарачаных галоў прапаноўвае, /морок/ і г.д. і да т.п. — такога багацця карэннаславянскага элементу дзе вы яшчэ адшукаеце ў сённяшнім стане моў! А самае галоўнае, беларуская мова данесла значную паўнату марфалагічных рысаў, характэрныя карэляцыі і чаргаванні, г.зн. немалы элемент правапісу старажытнага. Спрадвечнаславянскія гэта беларускія формы /бераг — на беразе, рака — у рацэ, нага — назе/, рускія формы /на берегу, реке, ноге/ — гэта пазнейшыя відазмяненні, адступленні ад старaславянскіх рысаў.

Адпаведна і націск у многіх словах беларускай мовы застаўся славянскім, у той час, як у рускай змяніў свае месца /пар.: во́зьмеш — возьме́шь, цёпла — тепло́, каро́тка — ко́ротко, па ваду́ — по во́ду/. І так усцяж па *ўсёй сістэме мовы*. Канчатак беларускіх прыметнікаў і займеннікаў вымаўляецца паранейшаму згодна са славянскім вымаўленнем /жывога, любога, добрага/, у той час як у рускай мы назіраем, так бы мовіць, арфаэпічную мадэрнізацыю /жывово, любово, моево, твоево/.

Тое ж самае і ў прыметніках з націскным канчаткам, у беларускай мове ён застаўся славянскім *ый, ій*, у рускай ён змяніўся на *ой* /пар. сляпы — слепой, благі — благой, дурны — дурной/.

Зноў жа і займеннікі *я, ты, сябе* ў родным і вінавальным склонах у беларускай мове наследуюць славянскую форму /мяне,

**Алесь ЯСКЕВІЧ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Я.Купалы, доктар філалагічных навук**

Нэля ТУЛУПАВА



# З кнігі «Я ЧАКАЮ ЦЯБЕ»

## ЧАЙКА НАД ДНЯПРОМ

**1**

**І вось я застаюся толькі з Небам.**
**І ніжае яно, каб параўнацца,**
**А я расту, каб вочы ў вочы**
**Не замінала нам нішто глядзець.**
**Ні цвыркунок з сваёю стракатнёй,**
**Ні матылёк, што засціць сонца,**
**Ні астэроід сёлетняга года,**
**Які нясе ў сабе**
**Апакаліпсіс.**

**2**

**І вось я застаюся толькі з Небам.**
**Няма куды хавацца,**
**І няма чым плакаць.**
**Звястун нябёсаў —**
**Негатыў зямнога.**
**І нават, калі воскам вушы заляпіць,**
**Ці закапацца галавою ў жвір,**
**Не ўратавацца нам**
**Ад слёз і енкаў.**
**Балюе смерць,**
**Крывавую збірае жатку,**
**Брат забівае брата,**
**Каб на касцях малят і мацярок**
**Дастаць да неба?**

**3**

**І вось я застаюся толькі з Небам.**
**І да слязы сціскаецца яно.**
**Мы дзве расіны,**
**Дзве слязы ў Сусвеце,**
**Міг прыцягнення,**
**Як маланкі росчырк.**
**І мы зліліся.**
**Нас няма.**
**Няма.**
**Бяскрайняя блакітная гайданка,**
**Ды белая душа гукае чайкай,**
**Адзіная душа да нас дваіх**
**Ляціць, ляціць,**
**Ніяк не адарвецца**
**Ад стромкіх берагоў Дняпра.**

## ВІТАННЕ З РАДЗІМАЙ

**Партыя скрыпкі ў аркестры —**
**Найлепшая партыя ў свеце!**
**Асабліва калі яна грае**
**Паланез Міхала Агінскага.**
**Толькі гэтай партыі веру.**
**Дух Дрымоты**
**Адцяты!**
**Слова Веры**
**Ўзыходзіць.**
**Яно ўзносіць**
**Душу,**
**Ўмілаваную Музыкай,**
**Да нябёсаў.**
**Праз рыданні свае,**
**І скрыпкі**
**Чую чыстае Слова**
**Іаана Багаслова:**
**«...Будзьма любіць...**
**Адно аднаго...**
**Бог ёсць Любоў.»**
**Словы**
**БОГ**
**і**
**ЛЮБОЎ**
**Адчуваю**
**Жывою існасцю,**
**Беспачатным**
**Пульсарам**
**Святла.**
**Прычашчоная ім,**
**Я вяртаюся**
**Зноў на Зямлю.**
**На Радзіму.**
**Тут — Пачатак мой,**
**І — Канец.**
**Усмактала тут слова Матчына.**
**Тут пачула я Слова Шчырае,**
**Срэбра, ў горне**
**Ачышчанае...**
**Партыя скрыпкі ў аркестры,**
**Найлепшая партыя ў свеце,**
**Паяднала ўсіх яна ўмомант.**
**Кожны**
**Кожнаму**
**Брат.**
**Чаранок дабрыні**
**Прывіваецца,**
**Праўды Дух**
**Прабіваецца,**
**Галубіным крыллем трапеча**
**Мая БЕЛАРУСЬ.**
**Гусляры, трубачы, жалейнікі,**
**Усе разам зайграйце!**
**Вавілоны ў сабе мы знішчылі,**
**Каб заззяла**
**Свята ў нас**
**Светача!**
**Фарысеяў**
**Манлівых семя**
**Засыхае**
**На струп'і,**
**Што вось-вось адпадзе.**
**Расцярушыць іх**
**Вецер на пыл...**
**І па ўсенькай**
**Маёй Беларусі**
**Нівы**
**Жытам**
**Атуляцца!**
**Развітанне — пачатак стрэчы.**
**Залатая партыя скрыпкі.**
**Залатая песня Агінскага.**
**З ласкі**
**Госпада**
**Прапяяная ўсёадзіна**
**Як**
**ВІТАННЕ**
**З**
**РАДЗІМАЙ.**

## «ТАДЫ Я ГЛЯНУЎ НА ЗЯМЛЮ...»

***«...Я сніў, што сам я адляцеў.***
***Душа ўзяла і засталася.***
***Што я хацеў, што я хацеў,***
***Што за праява адбылася?..»***

**Міхась СТРАЛЬЦОЎ.**

**А выбар быў.**
**Анёл прасіў.**
**Яшчэ энергія лілася.**
**Адпеклаваў. Ці не за ўсіх?**
**Душа ўзяла і засталася.**
**І доўга яе пудкі цень**
**Трывожыў росныя аблогі.**
**У адзіноце Дух ляцеў,**
**Як і раней — ляцеў да Бога.**
**«Тады я глянуў на зямлю,**
**Дзе засталіся чалавекі,**
**І зразумеў, як я люблю**
**Ўсё тыя ж паплавы і рэкі».**
**У сарамлівай галізне**
**Стаялі белыя бярозы.**
**Усё прадстала ў навізне:**
**Любоў і смерць. Жыццё і крозы.**
**І агарнуў душу спакой.**
**Калі надумала застацца —**
**Даволі·ліпнуць да акон,**
**І паміж зданямі тулянна.**
**Жывых не будзем мы судзіць.**
**Ніхто не знае свайго шляху.**
**Яшчэ далёка да Радзін,**
**Хоць божы род мы, але з праху.**
**Нарэшце круг свой завяршу,**
**Такі жыццёвы мой aspektus...**
**Сыду ў Францішкаву душу,**
**Раскрыжаваную праспектам.**



*Фота М. ЖЫЛІНСКАГА.*

УСТАВАЛА РАНІЦА. Праз летняе ейнае адзенне ўжо віднеліся ў вялікіх вокнах натоўпы дрэў. Яны падыходзілі да дому з цемры, іх большала ўвачавідкі, ужо можна і начное святло выключаць. Стаяў на верандзе засланы стол. Сёстры то разам, то паасобку садзіліся да яго, быццам спрабавалі снедаць, гаварылі глухімі ранішнімі галасамі. Уставалі, хадзілі кругам, па пакоях, і зноў вярталіся, і зноў аб тым самым гаворка: «...разумееш, я б цяперака любыя роды прыняла.., жарт, ножкамі двое ішло.., я так спужалася, каб ты не закрычала на мяне.., Марта сама ўжо вымаглася, не мінулі б асфіксіі... ледзь знайшла простыя ніткі для пупавіны...»

Нешта ўсё свежае бралася ў рукі з халадзільніка, стол быў ужо застаўлены, бы ў доме поўна гасцей, праз ноч едуць сюды, ідуць, стаяць пад вокнамі з нейкай вялікай урачыстай нагоды, ціха частуюцца, як у адведзінах. Доўга са стала ніхто не прымае, яшчэ, маўляў, не ўсе дасталіся, хто меўся быць.

Сёстры вярталіся да Марты. Сучка з шчанюкамі ляжала на баку, падымала галаву, глядзела на сваіх гаспадынь вільготным, мігатлівым позіркам, як з зорнага неба пасля доўгага дажджу. Плюшчылася, ківала прывітальна аднымі вейкамі. Яшчэ футра на ёй скамечана, ускінута абы-як, бы з чужога пляча. Шчаняты краталіся, згубіўшы сіську, ці ў сне, запаволена пластаваўся каторы ўсім цельцам, цесна адзін каля аднаго, як у мацярынскім лоне, у водах каляплодных. Старэйшая садзілася на падлогу крыху наводдаль ад іх, яе клікалі іншы раз, злаваліся, яна не адзывалася. Магнэзам вабіла ўбіраць у сябе вачыма невідоныя дагэтуль чыстыя, свежыя фарбы, адценні, блікі на поўсці нованароджаных, так зіхацяць раніцай першыя кветкі анемонаў. Любавалася і несвядома для самой сябе ўжо бараніла іх зрокам ад едкага з дымам лясных пажараў паветра, ад сонца высакоснага лета, атручанай ежы і чужых людзей. Як замаўляла. Як ведала, што знікне хутка маціцовы бляск на пысе і вушках у Мірты і Макуша, бы на створках выкінутай нагой з вады, расчыненай перлавіцы. Хана Мурза згубіць цёмную праз усю спіну воўчую дзягу. Памяльчэе глыбіня чорнага колеру ў Марцініка і Мальты. Кожны ўжо меў імя.

Дом адмяніўся. Не гулялі, не стукалі скразнякі — малым зашкодзіць, марфенамі распаўсюджваўся па пакоях ледзь улоўны, можа, улоўны толькі зверам і жанчынай, малодзіўны пах малой істоты.

— А можна паглядзець? — пыталіся дзеці, таўкліся каля веснічак, даведаўшыся, што Марта прывялася.

— Не, яны яшчэ сляпыя...

— Што, хіба шчанюкі... у акулярах?!

Сёстры смяюцца надзіва шчырымі моцнымі галасамі, як дзеці, раз-пораз успамінаюць пра акуляры, і зноў у смех. І нават ноччу ледзь пазнаеш, што з кошыка: «у-у-оў-у! у-у-оў!» Коратка так, патрабавальна, як на калавуры каторы, нехта самы пільны правяраў, ці спіць чалавек. Кошык стаяў у пакоі старэйшай.

Раптам пачула — кугае сава, дзіцячым голасам, зусім блізка. Нейкая трывожная начная зверка. Хацелася ўскочыць, праверыць пакоі, усіх, хто спіць: ці ўсё добра ў доме і ў свеце з блізкімі людзьмі. І не адважвалася падысці да вакна: можа, можна прыкінуцца, не прызнацца, што чуеш, што табе крычыць, табе варожыць. Абхінулася вялікай хусткай, пайшла з хаты. Поўня гуляла па небе сярод маціцовых кучаравых воблакаў, бы на пагорку па яблыневым садзе ў кветках. На зямлі пахла дымам, каторы дзень гарэў лес у Наваселлі, аўтобусам, казалі, не праехаць, і ніхто не гасіць. Абышла кругам, падняла згублены пасак ад начной кашулі, схамянулася, здзівіўшыся, што доўга ходзіць. Зачапіла куст напёрстаўкі, чувалася ў начы, як сыпалася насенне, бы з сухой жмені — расы ані кроплі, стаялі адныя гарачыя дні.

Назаўтра, казалі ў вёсцы, загарэўся лес і каля Лісаўшчыны, зусім побач. Сава як ведала, будзіла ноччу. Выдавалася, вось-вось з'явіцца на парозе дрэва, ахопленае жахам. Спуджаная птушка каля белага поля, дзе цвіла дзяцельніца, доўга кружаняла над гняздом, пятля за пятлёй, бы на некалькі вузлоў па-вясковаму завязвала сваё жытло, адлятала не адразу. Ужо пахла яловым гарам, смаляком на распалку. Марта кідалася,

# І ЎСЁ ЗРОБЛЕНАЕ ІМ...

## *Да юбілею беластоцкага сябра*

Не магу сказаць, што я асабіста блізка ведаю Міколу Гайдука. Некалькі кароткіх сустрэч, сярод іх найбольш запомнілася адна, у яго дома, што на ўскраіне Беластока. Сціпласць, гасціннасць, шчырае жаданне нечым паспрыяць, памагчы маім клопатам у гэтым краі і чалавечая душэўная прастата стварылі атмасферу своеасаблівай сваяцкасці, нібы я апынуўся ў асяродку сваіх брэсцкіх землякоў.

Нас яднала душэўная патрэба людзей з прыгранічча, ён з заходняга, я з усходняга. Я добра знаёмы з яго творчасцю, з першых кніг уражанне на мяне зрабіў фенаменальны ілюстраваны зборнік яго фальклорных апрацовак «Аб чым шуміць Белавежская пушча». Кніга кранула сваёй адметнай танальнасцю, якімсьці блізкім і для мяне мясцовым каларытам. Творы яе — гэта сапраўдныя сучасныя аранжыроўкі з народнага: «Яшчэ за цара Гароха, калі зямлі было толькі кроха, па ўсёй гэтай крышынцы вада бурліла. Людзей тады было таксама не вельмі многа, а звяроў дык зусім мала. І не дзіва, што тады кожны звер, малы ён ці вялікі, меў свой дакумент і вызначанае сталае месца, на якім жыць павінен. Усе звяры пільнаваліся сваіх гнёздаў і месцаў, па свеце не валачыліся» /«Чаму кот з сабакам у згодзе не жывуць»/. Апрацоўкі народных сюжэтаў у М. Гайдука далікатныя, творы не губляюць асаблівасцей вусна-паэтычнага эпасу, прывабнае гэта старабытнае жыццё людзей, звяроў і птушак, адчуванне старасвецкае прасторы і часу.

Гэтай кнігай /выйшла яна ў Беластоку ў 1982 годзе/, а таксама публікацыямі ў «Ніве» шматлікіх запісаў беларускіх песень з нотамі, краязнаўчага слоўніка і артыкулаў М. Гайдук сцвердзіў сябе арыгінальным фалькларыстам і зацікаўленым краязнаўцам. Без такіх прац напэўна не з'явілася б і яго кніга апавяданняў «Трызна» /«Мастацкая літаратура», 1992/, у якой аўтар загаварыў як пісьменнік і гісторык. Невыпадкова ў ёй кожнай тэме дадзены эпіграф са старажытнага летапісу ці хронікі, а то і проста з народнай песні. Цікава, што ў час, калі Гайдук стварае свае гістарычныя апавяданні, на Беларусі ў гэтым жанры працуюць У. Караткевіч, У. Арлоў, В. Іпатава, К. Тарасаў. Напісаная на матэрыяле Падляшша, кніга Гайдука добра ўпісваецца ў кантэкст беларускай гістарычнай прозы. Дадамо яшчэ, што пісьменнік уводзіць даволі часта ў свае творы вобразы святароў, служкаў культу, тым самым набліжаючы нас да размовы з Богам аб пошуках сэнсу жыцця. А хіба без гэтага сёння, ды і наогул, можна гаварыць пра духоўныя шуканні?

Услед за «Трызнай» выйшла ў «Юнацтве» кніга гістарычных эсэ «Паратунак». Гэта кніга аб нашым гістарычным зыходзе, нашых этнічных каранях. Вядома, што гісторыя нашай Бацькаўшчыны збеднена, сфальшыўлена, прапушчаны многія і многія яе старонкі. Пісьменнік імкнецца, і даволі паспяхова, запоўніць некаторыя так званыя белыя плямы, праўдзіва ўзнаўляе трагічнае і гераічнае мінулае нашага народа, звяртае ўвагу на не асветленыя па-сапраўднаму перыяды яго гісторыі. Зноў жа невыпадкова: амаль у адзін час выйшлі кніга М. Ермаловіча «Старажытная Беларусь» і праца М. Гайдука. Відаць, калі ёсць патрэба нацыі ў такіх кнігах, то тады яны парытэтна ствараюцца і выходзяць у свет. Дарэчы, «Паратунак» нарадзіўся з серыі гістарычных нарысаў, што друкаваліся ў «Ніве».

Пішу гэтыя радкі з нагоды шасцідзесяцігоддзя пісьменніка. У такіх выпадках звычайна прыпамінаюць і важнейшыя старонкі з яго жыццёвага шляху. Нарадзіўся ён у вёсцы Кабылянка, што на Беласточчыне. У пяцідзесятых гадах вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, дзе пазнаёміўся з Нілам Гілевічам, Рыгорам Барадуліным, Генадзем Бураўкіным, Іванам Пташнікавым, Барысам Сачанкам, Міхасём Стральцовым і іншымі, тады яшчэ пачаткоўцамі. Настаўнічаў, затым узначальваў беларускі ліцэй імя Б. Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім, семнаццаць год аддаў працы ў штотыднёвіку «Ніва». Выдаў у Беластоку на беларускай мове зборнік паэзіі «Ціш». Выступае таксама як публіцыст і перакладчык польскай паэзіі на беларускую мову.

Юбілей сябра з Беласточчыны і ўсё зробленае ім на літаратурнай і культурнай ніве яшчэ раз нагадалі мне пра духоўную еднасць беларусаў свету, пра супольнасць нашых мэт і творчых памкненняў!

**Аляксей ГАРДЗІЦКІ**

ВІНШУЕМ!

# АНАТОЛЮ КУЗЬМІЧОВУ — 70



У Мінску Анатоль Кузьмічоў жыве з 1967 года. Нарадзіўся ж ён на станцыі Вузлавая Тульскай вобласці ў сям'і чыгуначніка. З мая 1942 года ўдзельнічаў у баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі як мінамётчык, служыў у корпуснай газеце «В бой за Родину!». Пасля працаваў у рэдакцыі газеты Закаўказскай ваеннай акругі «Ленинское знамя», быў намеснікам галоўнага рэдактара часопіса «Литературная Грузия», завочна вучыўся ў Літаратурным інстытуце імя М. Горкага.

Друкуецца з 1940 года. Напісаў некалькі п'ес, але асноўныя набыткі — у галіне прозы. У Тбілісі і Маскве выходзілі кнігі «По свежему следу», «Смена караулов», «Так наступает весна», «Юго-Запад» і іншыя.

Раман «Юго-Запад», у якім расказваецца пра вызваленне ад гітлераўцаў Венгрыі, Венскую наступальную аперацыю, у 1976 годзе быў перавыдадзены ў выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Тэма мінулай вайны — і ў іншых кнігах А. Кузьмічова, выпушчаных «Мастацкай літаратурай». У прыватнасці, у рамане «Поле боя» падрабязна прасочваецца лёс тых, хто адразу пасля заканчэння сярэдняй школы пайшоў на фронт. На тэрыторыі Венгрыі адбываюцца і падзеі ў рамане «Подпольная кличка — Янош». У цэнтры твора — разведчык Шандар Доба, іншыя антыфашысты.

Шырокі ахоп падзей і ў рамане-хроніцы «Южный бастион», першая кніга якога называецца «Прорыв» і прысвечана абароне Тулы восенню 1941 года.

Віншуем Анатоля Пятровіча з юбілеем, зычым яму доўгіх год жыцця, новых творчых поспехаў!

*РЭПЛІКА*

# «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ»?

Мабыць, ніводзін з тых, хто набыў 1-ы том «Анталогіі беларускай паэзіі», не пашкадаваў. Купіў і я, парадаваўся.

Але прыдбаўшы 2-і том, я, шчыра кажучы, доўга не мог даўмецца: ці то я нечага не разумею, ці то свет павярнуўся дагары нагамі? Чытаю анатацыю. «У 2-і том увайшлі лепшыя творы беларускай савецкай паэзіі 20—50-х гадоў». І хто ж уключаны ў «беларускую савецкую паэзію»? Сярод даўно знаёмых /як Максім Танк, Аляксей Пысін/ і мала вядомых шырокай аўдыторыі /як Мікола Сямашка, Клім Грыневіч/ іменаў тых, хто жыў у Савецкай Беларусі, вока раптам выхоплівае людзей, якія хутчэй з'яўляюцца прадстаўнікамі «беларускай антысавецкай паэзіі». Ну аніяк не ўваходзяць у савецкую паэзію Ігнат Канчэўскі, Макар Краўцоў, Алесь Смаленец, Наталля Арсеннева, Масей Сяднёў, Алесь Салавей, Віктар Шведа. Адны з іх ніколі не жылі пры Саветах /як Ігнат Канчэўскі/, другія — не зжыліся з камуністамі /як Наталля Арсеннева/. Віктар Шведа — той наогул жыве на тэрыторыі Польшчы...

Найбольш з усіх эмігрантаў не пашчасціла, відаць, Алесю Салаўю, якому змянілі сапраўднае прозвішча Радзюк на «Радзёк» /так яно больш па-беларуску, ці што?/. А з савецкіх паэтаў дасталося Станіславу Шушкевічу, пра якога напісана літаральна наступнае: «У 1937-56 гг. у геалагічных экспедыцыях у Сібіры». Дзіўнаватая, мякка кажучы, фармулёўка! Асабліва ўлічваючы, што пра іншых рэпрэсаваных гаворыцца адкрытым тэкстам: «сасланы», «расстраляны», «рэпрэсаваны»...

Дзівіць, што ні ўкладальнік Алег Лойка, ні рэдактар Рыгор Барадулін не парупіліся звярнуць увагі на гэтыя недакладнасці.

**Зміцер ДЗЯДЗЕНКА**

*г.Орша*

*З ПОШТЫ «ЛіМа»*

# ЗА КАГО ВЫ НАС ПРЫМАЕЦЕ, ВЯЧАСЛАЎ ФРАНЦАВІЧ?

***Ніколі, лічу, не быў баязліўцам ці панікёрам, хоць у жыцці ўсякае здаралася, а на вайне даводзілася і ў вочы смерці глядзець. Сёння ж цяжка заглушыць у сабе пачуццё страху, устрымацца, каб не закрычаць каравул. І справа не столькі ў тым, што хтосьці пагражае асабіста мне, колькі ў небяспецы ўсім, хто адчувае сябе беларусам, дбае пра нацыянальнае Адраджэнне. Пагроза матчынай мове ў нас існавала, зразумела, і раней, але апошнім часам стала настолькі рэальнай, што мы апынуліся — без перабольшання — пад дамоклавым мячом двухмоўя. Занёс жа яго над нашымі галовамі з дапамогай сваіх паплечнікаў сам кіраўнік беларускага /ці сапраўды беларускага?/ урада і, здаецца, усё яшчэ ганаровы сябар ТБМ В.Кебіч.***

На нядаўняй сустрэчы з вайскоўцамі ў Брэсце ён заявіў: «Я выступаю за равноправие двух языков — белорусского и русского...» Толькі тае бяды! — скажа хто-небудзь з чытачоў. Так, на першы погляд, гэта нават добра: мы ж марым аб тым, каб да беларускай мовы ў нас адносіліся з гэткай жа павагай, як да рускай, а матчына слова каб гучала не цішэй за тое, якое заглушае яго зараз і ў парламенце, і на вуліцы. Але нашы мары могуць здзейсніцца толькі тады, калі, як мінімум, не будзе рэвізіі дзеючага Закона аб мовах. У выказванні ж прэм'ер-міністра якраз адчуваецца імкненне рэвізаваць яго дзеля ўвядзення праславутага двухмоўя. Праўда, гэта толькі падтэкст, аднак жа шыла ў мяшку не схаваеш!

Што да клопатаў В.Кебіча аб раўнапраўі дзвюх моў, дык, відаць, яго турбуе толькі адна з іх, дакладней, яе афіцыйны статус, — мова «старэйшага брата», якая і так займае пануючае становішча ва ўсіх сферах нашага жыцця. Дарэчы, яе спяшаюцца зрабіць дзяржаўнай /і тым прынізіць ролю мовы карэннай нацыі/ прыкладна па тым жа сцэнарыі, па якім «саўмінаўская партыя» вяла прапагандысцкую кампанію з дэмагагічнымі прыёмамі — у падтрымку ваеннага хаўрусу з Расіяй.

Як тады, так і цяпер, падставы ў «інтэрнацыяналістаў»-шавіністаў для прыняцця парламентам патрэбнага для іх рашэння шыты белымі ніткамі. Ну, сапраўды, за каго нас прымае Вячаслаў Францавіч, калі гаворыць у тым жа Брэсце: «Нельзя лишать наших детей, внуков возможности учиться, разговаривать на великом русском языке...»? Цікава, хто ці што пазбаўляе іх гэтай магчымасці? Калі такое чуеш ад недасведчанага або малапісьменнага чалавека, які, мабыць, і ў руках не трымаў Закон аб мовах, дык яму хочацца паспачуваць. Калі ж гэтыя словы вылятаюць з вуснаў Старшыні Саўміна, дык застаецца толькі рукамі развесці. Я, праўда, не стаў гэта рабіць, а яшчэ раз перачытаў той дакумент і не знайшоў у ім аніводнага радка або слова, якія могуць перашкодзіць нашчадкам хоць прэм'ера, хоць пралетарыя авалодаць любімай мовай.

Тады падумалася: можа, В.Кебіч лічыць, што асобныя артыкулы закона, так бы мовіць, працуюць з апярэджаннем графіка? Можа, ужо, не дай Бог, які-небудзь тутэйшы, пачуўшы расійскае слова, патрабуе ад субяседніка: «Гаварыце палюдску!»? Ці ў дзяржаўнай установе чыноўнік-беларус адмаўляецца прыняць дакумент ад наведвальніка толькі таму, што ён не на «мужыцкай мове»? Не, тут усё якраз наадварот: гэта рускамоўныя не заўсёды хочуць разумець тутэйшых і ўсё яшчэ, здараецца, не бяруць у іх паперы, напісаныя на дзяржаўнай мове.

Не магу сабе ўявіць, што кіраўнік урада, на які, між іншым, ускладзена арганізацыя выканання моўнага закона /гл. арт.6/, не ведае пра такія факты. Але ж фактам з'яўляецца і тое, што захады па дэрусіфікацыі выклікаюць у яго негатыўную рэакцыю. Вось адзін характэрны штрых. Год таму ў газетах была надрукавана заметка аб тым, што народныя дэпутаты З.Пазняк і Л.Баршчэўскі распрацавалі праект урадавай пастановы, згодна з якой павінны па-беларуску аб'яўляцца назвы прыпынкаў на транспарце і афармляцца шыльды з найменнем дзяржаўных структур. Ад прачытанага «стало не по себе» адной жанчыне, аб чым даведаўся Вячаслаў Францавіч у час гутаркі з чытачамі «Советской Белоруссии», надрукаванай у газеце 15 ліпеня 1992 года. Адказ чытачцы быў такі: «Принимаю к сведению ваше мнение». Сёння можна дакладна сказаць, што згаданы праект пастановы, які адпавядае патрабаванням Закона аб мовах, заснаў тую ж долю, што і шмат якіх іншых прапаноў па нацыянальным Адраджэнні.

Прэм'ер унёс свой «уклад» і ў рашэнне моўных праблем, якія хваляюць нашых вайскоўцаў. У армейскіх калектывах ужо ўзяліся за выкананне праграмы беларусізацыі, разлічанай на некалькі гадоў. Прыняты і Закон «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь», дзе выразна гаворыцца аб паступовым пераходзе ў войску на дзяржаўную мову. Адным словам, лёд крануўся. А калі так, дык ці варта стрымліваць патрыятычныя імкненні салдат і афіцэраў? Безумоўна, не! На жаль, у В.Кебіча іншая думка наконт гэтага, аб чым сведчыць яго выступленне ў Мар'інагорскім гарнізоне. Ён правільна адзначыў, што ўсе статуты, настаўленні, розная дакументацыя шмат гадоў ствараліся на рускай мове. І мне здавалася, што далей будзе сказана, напрыклад, аб неабходнасці хутчэй распрацаваць і выдаць тэрміналагічныя вайсковыя слоўнікі, перакласці на дзяржаўную мову літаратуру, патрэбную для баявой падрыхтоўкі, стварыць у падраздзяленнях сапраўднае асяроддзе беларускасці і г.д. Аказваецца, усё гэта «какие-то амбиции», дзеля якіх наўрад ці трэба штосьці мяняць і тым больш ламаць. «Во всяком случае, — удакладняе прамоўца, — в обозримом будущем наверняка не нужно...» /«Во славу Родины» за 6 студзеня г.г./.

Такім чынам, пераход войска на дзяржаўную мову адкладваецца да грэчаскіх календ. Што тычыцца абяцання самога Вячаслава Францавіча выступаць і размаўляць па-беларуску, дык і тут назіраецца штосьці незразумелае: чым больш аддаляецца час, з якога пачаўся «пераход» прэм'ера на дзяржаўную мову, тым радзей чуецца з яго вуснаў беларускае слова. Будзе вельмі пікантна, калі хтосьці з замежных паслоў, якія зараз вывучаюць нашу мову, у час сустрэчы са спадаром Кебічам звернецца да яго па-беларуску, а ён па сваёй звычцы адкажа на «великом і могучем»...

Мне сорамна за ўрад Беларусі і яго кіраўніцтва, якія адкрыта грэбуюць моваю свайго народа. На карту, па сутнасці, пастаўлены лёс нашай дзяржаўнасці, лёс беларускай нацыі. Ці ведаюць Вячаслаў Францавіч і яго каманда, што нават нямецкія акупацыйныя ўлады падчас як першай, так і другой сусветных войн стваралі ўмовы для беларусізацыі на нашай зямлі? /Гл. «Звязду» і «ЛіМ» за 30 красавіка/. Я не збіраюся праводзіць тут гістарычныя паралелі, але, калі задумаешся над гэтымі фактамі, дык высновa напрошваецца сама сабой.

**Генадзь ЛАГУНОВІЧ,**
**ветэран вайны і Узброеных Сіл**

*г.Мінск*

ФЕСТЫВАЛІ

## Цуд спраўджваецца?..



Спектаклі Беларускага міжнароднага фестывалю лялечных тэатраў пакрысе апанавалі пляцоўкі мінскіх тэатраў. Адкрыццё фестывалю прыпадала на 20 мая; першы ж спектакль — «Цар Ірад» Г.Барышава ў пастаноўцы Аляксея Ляляўскага — задаў напраўду фестывальны тон. Нязмушана пераканаў сумніўцаў ды незадаволеных: вобраз другога беларускага міжнароднага цяпер будзе атаясамляцца з нацыянальнай батлейкай. З той батлейкай, якая заўсёды мае на ўвазе спраўджаны цуд. Цуду падпарадкаваліся, на цуд настройваліся, цудам гартаваліся і ствральнікі «Цара Ірада», і арганізатары міжнароднага лялечнага фэсту. Цуд, падобна, спраўджваецца, нягледзячы на сонечнае зацьменне і велізарную колькасць гасцей ды дзяцей. Дзеці рэжысуюць, не падымаючыся з крэслаў. Дзіцячая рэжысура на першым спектаклі зводзілася да пытанняў «Куды яны ўцякаюць?» /Марыя з Хрыстом/, «Чаму ён такі злосны?» /цар Ірад/, «Пакажыце таго маленькага» /Хрыста/. Маленькага паказалі, добра асвятліўшы перад фіналам батлейку, дзе ён знаходзіўся і торгаў ручкамі-ножкамі. Спраўджаны цуд — даўмецца разгледзець гэта з пятнаццатага рада самай нязручнай у свеце глядзельнай залы Дзяржаўнага тэатра лялек...

Наступным днём публіку ўражвалі: віцебскія лялечнікі сваёю па-мастакоўску эфектнай «Папялушкаю» Яўгена Шварца паводле Шарля Перо /мастакі-пастаноўшчыкі — Ганна і Алесь Сідаравы, рэжысёр — Віктар Клімчук/ рэжысёр Алег Жугжда з Ларысай Мікуліч у ролі Зязюлькі ў Магілёўскім спектаклі паводле аднайменнай п'есы Уладзіміра Граўцова. Але пра гэта мусіць быць распаведзена падрабязна і іншым разам.

Ж.Л.



*НА ЗДЫМКАХ: Уладзімір ВАРАНКОЎ /Чорт/ у спектаклі «Цар Ірад» Г.Барышава; крытыкі ў прадчуванні свята — Гурый Барышаў і Галіна Алісейчык.*

*Фота Уладзіміра ПАНАДЫ і Ірыны ГУДЗІЕЎСКАЙ*

ТЭАТР

## «Што той салдат, што гэты»...

Аднайменны спектакль паводле Бертольда Брэхта зазнаў святло рампы навучальнага тэатра Беларускай акадэміі мастацтваў 10 мая. Выпускны акцёрскі курс /кіраўнік — Валерый Раеўскі/ паказаў публіцы адзін са сваіх дыпломных спектакляў. Цікава, што пастаноўка паводле Брэхта, як сведчаць знаўцы ды аматары тэатральнага мастацтва, рыхт у рыхт паўтарае колішні нашумелы спектакль Акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, — дэбютаваў ім мастацкі кіраўнік Валерый Раеўскі, які, скарыстаўшыся з падтрымкі мастака Барыса Герлавана, і паўтарыў спектакль на навучальнай сцэне. Найбольшую каштоўнасць «Што той салдат, што гэты», мабыць, уяўляе сабою для гісторыкаў тэатра, ягоных тэарэтыкаў і крытыкаў, бо не так часта надараецца магчымасць вярнуцца ... на дваццаць гадоў назад. Эстэтыка, рэжысёрскія прыёмы, акцёрскія дзеянні нібы вяртаюць гледача ў час незабыўнага трыумфу Зінаіды Браварскай, Аўгуста Мілаванава і купалаўскай трупы, якая зразумела і прыняла свайго мастацкага лідэра... дваццаць гадоў таму. Дарэчы, пра свой прыход у Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы Валерый Раеўскі даў згоду распавесці на старонках «ЛіМа».



*НА ЗДЫМКУ: удзельнікі спектакля «Што той салдат, што гэты» Б.Брэхта.*

*Фота У.ПАНАДЫ*

ЛІТКУР'ЕР

## «Маладосць» — госць «Юнацтва»

Менавіта гэтымі словамі пачалася літаратурна-мастацкая вечарына, прысвечаная 40-годдзю часопіса «Маладосць» у мінскай бібліятэцы «Юнацтва». Вечарына нагадвала своеасаблівую тэатральную дзею, у якой непасрэдны ўдзел прынялі як супрацоўнікі бібліятэкі, так і запрошаныя госці: пісьменнікі, музыкі, чытачы. З вестыбюля будынка, дзе прагучалі ўступныя словы супрацоўнікаў «Маладосці», а гурт «Камелот» выканаў некалькі сваіх «сярэднявечных» песень-менестрэлей, — дзея перанеслася ў адну з залаў бібліятэкі, якая на гэты часператварылася ў міні-вернісаж мастачкі Вольгі Дзёмкінай, творы якой не раз змяшчаліся на старонках часопіса. Перад прыхільнікамі паэзіі прачыталі свае вершы аўтары часопіса паэты Міхась Скобла і Эдуард Акулін. Чытацкую цікаўнасць аматараў прозы задаволілі празаікі Анатоль Казлоў і Віктар Праўдзін.

А напрыканцы вечарыны са сваімі творчымі дэбютамі выступілі самі чытачы-навучэнцы мінскай тэатральнай школы N 36. Яны выканалі ўласныя песні на словы беларускіх паэтаў, прачыталі вершы.

Н.К.

## Памяці патрыёта

Я люблю гэты вобраз краіны,
Тыя вёскі, балоты, гаі,
Бо радзіўся я ў гэтай старонцы
І памру мо я ў гэтым краі.




Гэтыя словы Цішка Гартны напісаў у 1910 годзе ў Магілёве. Ці мог ён прадбачыць, што яны спраўдзяцца і ён загіне ў псіхлякарні г.Магілёва ў красавіку 1937 года, куды патрапіць, звар'яцеўшы падчас катаванняў у НКУС?!

Да сённяшняга дня афіцыйна невядома месца пахавання славутага пісьменніка і грамадскага дзеяча. Але ў выніку розных сведчанняў было прыкладна ўстаноўлена гэтае месца. У 1989 годзе сябрамі Магілёўскага аддзялення «Мартыралога» на ўскрайку лесу недалёка ад лякарні быў устаноўлены памятны знак на месцы мяркуемага пахавання славутага сына нашай бацькаўшчыны.

З таго часу штогод на Радаўніцу сябры суполкі беларусаў «Машэка» збіраюцца ля памятнага знака, каб ушанаваць Ц.Гартнага, а ў яго асобе ўсіх змагароў і загінуўшых за волю і незалежнасць Беларусі. І сёлета разам з жыхарамі навакольных дамоў была наладжана тут вячэра-ўспамін з размовамі і песнямі ў выкананні І.Мухіна-Рабянка і С.Кулягіна.

І.ПУШКІН,
дырэктар музея гісторыі Магілёва

## Адразу — дзве

Выдавецкая суполка «Полацкае ляда» напрыканцы мінулага года выданнем зборніка Юры Гуменюка «Водар цела» распачала паэтычную серыю «Паэзія новай генерацыі». І вось у траўні выйшлі чарговыя дзве кніжкі: «Зямля Ханаан» Славаміра Адамовіча і «Крылы пeратворацца ў карэнні» Алеся Аркуша. Усяго плануецца выдаць 15 паэтычных зборнікаў, якія, як спадзяюцца выдаўцы, дадуць уяўленне аб набытках маладой беларускай паэзіі пачатку 90-х гадоў.

А.К.

ДРУК

## «Рапсодыя» болю

Выдавецтва «Полымя» пры ўдзеле АТ «Шыфрын-тэатр» Маскоўскага дзяржаўнага культурнага цэнтра «Кастрычнік» выпусціла кнігу М.Крэйера «Журботная рапсодыя». З прадмовы «Дабрата мацней за боль», напісанай С.Берасцень, можна шмат даведацца пра аўтара, цяпер вядомага латышскага пісьменніка і музыказнаўцу, а ў перадваенны час жыхара Мінска.

Са старонак жа самой кнігі паўстае іншы лёс — узнаўляюцца пакутныя сцяжыны аднаго з мільёнаў ахвяр сталінізму З.Шыфрына, бацькі вядомага эстраднага артыста Я.Шыфрына. Дарэчы, З.Шыфрын — наш зямляк, нарадзіўся ў Дрыбіне, цяперашнім раённым цэнтры. Лагеры, турмы зведаў і сам М.Крэйер.

## «Роднае слова» — пра літаратуру

У чацвёртым нумары часопіса — артыкулы «... Ці змагу я быць патрэбным у літаратуры?..» Т.Дасаевай і «За любоў да цябе я пакутаваць мушу...», у якіх разглядаюцца адпаведна жыццёвы і творчы шлях П.Галавача і А.Салаўя. В.Рагойша /«Беларускі санетарый»/ разважае пра адзін з найбольш старых і складаных паэтычных жанраў, Х.Лялько /«Пазначанае сонцам слова...»/ дзеліцца ўражаннямі аб творчасці М.Дуксы. Друкуюцца заканчэнні артыкулаў Г.Няфагінай «За зямлю і волю. Вобраз Кастуся Каліноўскага ў беларускай драматургіі» і В.Нячай «І падала зерне ў раллю. Уладзімір Караткевіч і кіно».

У сувязі з 40-годдзем часопіса «Маладосць» выступае яго галоўны рэдактар Г.Далідовіч — «Маладыі дэмакратычны». Змешчана «Праграма-праспект па беларускай літаратуры для VIII—XI класаў» /падрыхтаваў М.Мушынскі/.

## Калі не ўсё пра тэатр, дык шмат...

У гады даваеннага юнацтва звяртаецца ў трэцім нумары часопіса «Тэатральная Беларусь» Я.Брыль. «Праз паўвека» — гэта згадкі пра ўласныя рукапісы, што ўсё ж захаваліся з той даўняй пары. Частка іх прапануецца чытацкай увазе: артыкулы «Думкі пра народны тэатр», «Наша культурная праца», верш «Новыя боты», пераклады на беларускую мову камедый Л.Талстога «Ад яе ўсе якасці» і «Першы вінакур...».

Змешчаны трагікамедыя І.Чыгрынава «Госці», публіцыстычны роздум Я.Міклашэўскага «Інтэлігенцыя за... кулісамі», заканчэнне спецвыпуска «ТБ» з фестывалю «Драматычнае мастацтва Беларусі». На гэты раз слова даецца крытыкам, тэатразнаўцам, якія ўдзельнічалі ў навукова-практычнай канферэнцыі.

Я.Адамовіч расказвае пра святкаванне ў Мінску Калядаў — «А месяц глядзеў, а месяц дзівіўся...»

## Пячаткі Беларусі

Сфрагістыка — навука, якая займаецца вывучэннем пячатак. Калі-нікалі ўжываецца і іншы тэрмін — сігілаграфія. Як навуковая дысцыпліна, яна аформілася недзе ў XVIII стагоддзі, але першым вядомым сфрагістычным помнікам — каля дзевяці тысяч гадоў. Праўда, узрост беларускай сфрагістыкі куды меншы, усяго адна тысяча гадоў...

Гэтыя і іншыя цікавыя звесткі можна ўзяць з кнігі Анатоля Цітова «Пячаткі старажытнай Беларусі», выпушчанай выдавецтвам «Полымя».

У кнізе — звыш 500 фотаздымкаў і малюнкаў аўтара, большасць з іх друкуецца ўпершыню.

ВІНШУЕМ!

## Чуцен бас наш далёка...

Без усялякае пратэкцыі паехаў на І Міжнародны конкурс маладых оперных спевакоў саліст ДАВТа Беларусі Алег Гардынец. Гэтае творчае спаборніцтва, якое праходзіла ў Пермі, сталася для яго ўдалым: выхаванец Беларускай акадэміі музыкі малады оперны бас Алег Гардынец атрымаў званне лаўрэата Міжнароднага конкурсу і 2-ю прэмію.

## Першая прэмія!

У Торуні /Польшча/ прайшоў юнацкі конкурс піяністаў імя Ф.Шапэна. Лаўрэатам 1 прэміі стаў Юзік Сяргей, выхаванец Рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі. Лідэрства на музычным конкурсе ў краіне Шапэна — сапраўдная перамога маладога беларускага піяніста і ягонага педагога — Наталлі Ташчылінай.

КУЛЬТУРА

## Травеньскія бардаўскія вечары

Нарэшце завяршыліся тры «травеньскія вечары» бардаўскай песні, што праходзілі кожны панядзелак у Доме літаратара. Арганізаваны яны былі радыёстанцыяй «Крыніца» /журналістка Надзея Кудрэйка/ пры фундатарскай дапамозе ўсё той жа «Дайновы». У імпрэзах здолелі прыняць удзел самыя, бадай, цікавыя беларускія барды: гарадзенец В.Шалкевіч, аршанец А.Мельнікаў, менчукі Э.Акулін, В.Акуліч, А.Камоцкі, К.Камоцкая, Л.Медзіч, В.Цярэшчанка з Гомеля, Л.Сом з Полацка, а таксама наш зямляк з Вільні З.Бартосік, Э.Бязюк з Варшавы і інш.

Гэтыя вечары паказалі, што беларуская аўтарская песня ўжо выходзіць з рамак аднаго выканаўцы, які пры дапамозе гітары даносіць да слухача вершы больш даходлівымі песеннымі сродкамі. Так, Алесю Камоцкаму ўжо дапамагаў выступаць прафесійны гітарыст, чые пасажы даволі добра дапаўнялі спевы нашага бардаўскага мэтра. Бард-гурт «Камелот», удзельнікі якога З.Сідаровіч і І.Войніч прадставілі ўслед за Камоцкім сваю новую песню, увогуле перайшоў грань так званага «аўтарскага выканання» і стаў акустычным рок-ансамблем, даволі папулярным сярод беларускай моладзі. Эксперыменты Касі Камоцкай з «Новым небам» цяжка назваць аўтарскай песняй, бо гэта ўжо сапраўдны рок з ударным рытмам і гітарным драйвам.

На жаль, на Беларусі ніхто не займаецца папулярызацыяй даволі разнастайных выканаўцаў уласных песень. Голас Вальжыны Цярэшчанкі можа даць фору безгалосым і падобным адна на адну дэнацыяналізаваным «пявіцам», якія запаўняюць сучасную эстраду. Дзякуй Богу, на радыё, у той жа «Крыніцы» і «Беларускай маладзёжнай», рэстаранная песня яшчэ не зусім запаланіла эфір, яшчэ можна пачуць таго ж Мельнікава, Акуліна, Камоцкую, «Камелот», а таксама Сокалава-Воюша і інш. Дзякуй Богу, яшчэ пры такім панаванні замежных песень, ёсць яшчэ тыя, хто ведае і хоча слухаць нашых бардаў, песні якіх сапраўды нешта духоўна абуджаюць у нашай душы.

І.ЯНЧУК

*На здымку У.Панады — гарадзенец Віктар Шалкевіч.*

АНОНС

## Памяці Багдановіча

Клуб «Спадчына» і Дом літаратара запрашаюць 28 траўня а 18 гадзіне на вечарыну, прысвечаную памяці Максіма Багдановіча, якая пройдзе ў вялікай зале.

Пасля вечарыны адбудзецца канцэрт, у якім бяруць удзел папулярны ансамбль «Сябры» — мастацкі кіраўнік А.Ярмоленка, дзіцячая студыя «Буслік» пад кіраўніцтвам кампазітара З.Яўтуховіча, мастацкі ансамбль клуба «Спадчына» пад кіраўніцтвам Г.Смоляк.

Вы пачуеце песні на словы М.Багдановіча, а таксама творы з новай праграмы студыі «Сябры» і кампазітара З.Яўтуховіча «Эмігранты Беларусі».

## Беларусь — Швейцарыя

З 31 траўня па 4 чэрвеня на Беларусі пройдуць Дні культуры Швейцарыі /кантонАаргау/.

План правядзення Дзён уражвае: мастацкая выстаўка і выстаўка плаката; канцэрт сімфанічнай музыкі з удзелам нашага Акадэмічнага аркестра, швейцарскага маэстра Вэто Чупа ды салісткі Эмі Хенц-Дэманд; шэраг камерных канцэртаў — вакальнай музыкі, джазавага ансамбля, камернага трыо, арганісткі Рут Гімель; сумеснае выступленне беларускага ансамбля «Класік-Авангард» і салісткі Эмі Хенц-Дэманд. 31 траўня раніцай адбудзецца сустрэча ўдзельнікаў Дзён з актывам таварыства «Беларусь — Швейцарыя». Як нам паведамілі, у складзе афіцыйнай дэлегацыі — Петэр Вертлі, урадавы саветнік, кіраўнік дэпартамента па пытаннях выхавання; урадавы саветнік Артур Шміт; кіраўнік дэпартамента аховы здароўя Эрхард Трамсдорф; кіраўнік аддзела культуры ў дэпартаменце па пытаннях выхавання Андрэ Ф.Моасбюргер. Урачыстае адкрыццё Дзён у той жа дзень, а 19 гадзіне, у Канцэртнай зале філармоніі.

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА: ЖЫВЫЯ ГАЛАСЫ

# ІНА РЫТАР /АЛЯКСАНДРА САКОВІЧ/: «ЛІТАРАТУРА — МАЯ ДУХОВАЯ РАДАСЦЬ»

**— Спадарыня Іна, як пачуваецеся, як ваша здароўе?**

— Дзякуй Богу. Нягледзячы на свой век, я сама сабе даю рады. Шмат чытаю, парадкую архівы... А ў вольны час вельмі люблю плаваць. Чатыры разы на тыдзень хаджу ў басейн. Часу хапае: і падумаць, і паразважаць...

**— Сёння, азіраючыся на пражытыя гады, як вы лічыце: лёс чалавека — ён ад Бога ці мы самі творым яго?**

— Цяжка сказаць так адразу. Я вам раскажу свой лёс, а вы — мяркуйце самі... Я нарадзілася ў Адэсе ў беларускай сям'і. Пасля першай сусветнай вайны там апынулася шмат беларусаў — уцекачоў з Віленшчыны, Меншчыны і Гарадзеншчыны. Папоўнілі беларускі асяродак у Адэсе і вайскоўцы-беларусы, якія былі на румынскім фронце. Бальшыня з іх была нацыянальна свядомымі людзьмі. Беларусы Адэсы пачалі арганізоўвацца ў суполкі.

А час быў цяжкі: хлеба нават не хапала... Першай справай стварылі два дзіцячыя дамы для беларускіх дзетак. Першы — на дачы Дунаеўскага, другі — на дачы Кальфа, ля самага мора. Там працавалі мае сёстры і брат, а Міхась Грамыка быў загадчыкам. Праца не аплачвалася. Галоўнае было — дастаць ежу, каб не памерці з голаду. Акрамя дзіцячых дамоў, у Адэсе былі арганізаваны чатыры дзіцячыя пляцоўкі для дзетак беларусаў. Дзеці прыходзілі туды на снеданне і абед.

У кастрычніку 1921 года мая сястра паехала — вярнулася ў Беларусь. Я таксама думала аб гэтым. Цягнікі тады яшчэ не хадзілі. Ліда працавала ў дзіцячым доме, які стараннем старшыні беларускага ўрада Аляксандра Чарвякова быў вернуты на радзіму з Адэсы. І калі жонка Чарвякова ў спецыяльным вагоне ехала ў Кіеў забраць сваю сястру, а ў Адэсе Іллючонка і Стацэвіча, — Ліда папрасіла, каб яна ўзяла і мяне... Да Менска эшалон ішоў два тыдні. У Адэсе было цёпла, а прыехала на Беларусь — там зімна і холадна... Мяне ніхто не спаткаў. А мама паклала мне з сабой вялікі мяшок рэчаў. Мы чулі, што ў Менску не было солі, дык яна паклала і соль. Барыс Стацэвіч носіць мой мяшок і ўсё пытае: Іна, а чаму ён у цябе такі цяжкі? А цяжкі ён быў з-за солі. Пасля мы мянялі яе на цыбулю...

У Менску я спынілася ў дзіцячым доме, дзе сястра мела пакой. Там жыла таксама будучая жонка Алеся Адамовіча — Марыя Пятроўна Герасімава. А праз сад ад нашага дома быў дзіцячы садок, дзе загадчыцай працавала Уладзіслава Францаўна Луцэвіч ці, як яе ўсе называлі тады, — Купаліха. На Новы год у дзіцячым доме зрабілі ялінку і запрасілі на яе Янку Купалу. Тады я з ім і пазнаёмілася. Пазней, калі мая сястра выйшла замуж за Міхася Грамыку, Купала часта быў у іхнім доме, там я часта бачылася з ім.

**— А ці размаўлялі калі-небудзь?**

— Ды заўсёды! Ён быў дужа добры. Абавязкова спытае пры сустрэчы: «Ну, мая красавіца, як жывеш?» Цяпер усякія плёткі ходзяць пра Купаліху, а я глыбока паважаю яе. Нават калі ў старасці яна і змянілася, я не хачу пра яе нічога дрэннага чуць, бо яна — цудовы чалавек... Дапамагала ўсім, каму магла.

**— А ці чыталі вы тады Купалу, ці былі прыхільніцай яго таленту?**

— Безумоўна! Мы ўсе маліліся на Купалу ўжо тады. Якуба Коласа, прабач мне Божа, я менш люблю, не заўжды разумею. А Купала мне бліжэй...

**— Спадарыня Іна, а чым вы займаліся ў Менску?**

— Пайшла вучыцца. Скончыла два курсы Белпедтэхнікума і рашыла паспрабаваць паступіць ва універсітэт. Дырэктар тэхнікума падтрымаў мой намер. Кажа, калі праваліш экзамены, прыходзь назад... Але экзамены я вытрымала і стала вучыцца ва універсітэце. Першы год вельмі сумавала па тэхнікуме і на ўсе забавы бегала туды. Пакуль у мяне не з'явіліся новыя сябры — Юрашкевіч, Улашчык, Бараноўскі, Шутаў... Ва універсітэце ў той час была бліскучая прафесура — Доўнар-Запольскі, Пічэта, Ігнатоўскі, Друшчыц... Маскоўскія прафесары, якія пераехалі ў Менск — Нікольскі, Перцаў, Савіч... У 30-х гадах амаль усіх іх панішчылі... Вучылі мяне таксама Лёсік, Азбукін, Сушчынскі... Іх лёс таксама трагічны.

**— Вы вучыліся на гістарычным факультэце?**

— Так, і пасля яго заканчэння мне прапанавалі выкладаць мову і літаратуру на рабфаку пры БДУ.

**— Спадарыня Іна, а ці займаліся вы тады літаратурнай творчасцю?**

— Не, пісала толькі ўсякія навуковыя рэфераты на рабфаку. Але мара пісаць была. Мая сяброўка Юля Бібіла працавала ў бібліятэцы. Яна даводзілася крэўнай Кастусю Каліноўскаму. Юля мне дужа многа расказвала пра свайго славутага сваяка. Я марыла вывучыць усё яго жыццё і напісаць пра Каліноўскага раман. Жыццё я вывучыла, а раман не напісала... Было шмат іншых клопатаў. Трэба было некаму падабацца і мне нехта падабаўся. У 1930 годзе я выйшла замуж за Дамініка Сеўрука. Ён вучыўся ў тэхнічным інстытуце ў Маскве, беларускім нацыянальным пытаннем цікавіўся мала. Калі арыштавалі маіх сяброў, Менск для мяне стаў пустым і чужым, і я падалася ў Адэсу — да мамы. Але доўга там не затрымалася, пераехала да сярэдняй сястры ў Гомель, дзе ў 1931 годзе выкладала беларускую літаратуру ў аграмедінстытуце. Я працавала, а сястра глядзела нашых дзяцей: у мяне быў сын і ў яе. Увосень прыехаў мой муж і забраў мяне, у Маскву. Ён працаваў ужо ў цэнтральным інстытуце авіяцыйнага маторабудавання. Жылося нам нялёгка, але мы любілі адно аднаго. Гэта і дапамагло перажыць гора, калі памёр наш першынец... Неўзабаве ў Маскве пачаліся арышты... Дайшла чарга і да нашай сям'і...

**— Як гэта здарылася?**

— Вельмі нечакана. 8 сакавіка 1938 года Дамінік прынёс білеты і вечарам мы паехалі ў тэатр. У тэатры я ўбачыла, што за намі селі два энкавэдысты. Я сказала аб гэтым Дамініку, а ён мне адказаў: не звяртай увагі. У антракце яны сачылі за намі. Я зноў сказала мужу аб гэтым, а ён толькі пажартаваў: гэта ты спадабалася ім...



*Іна РЫТАР з мужам Аўгенам КАЛУБОВІЧАМ. Здымак 60-х гадоў.*

Пасля спектакля мы прыехалі дахаты, а ў нашым двары стаіць «чорны воран». Але мы не прыдалі гэтаму ніякага значэння, бо ён стаяў там амаль кожную ноч. Увайшлі ў нашу парадную і сутыкнуліся з двума вайскоўцамі. Адзін пайшоў наперад, а другі за намі. Мы жылі на пятым паверсе. Падышлі да сваёй кватэры, а там ужо стаіць энкавэдыст.

— Вы — Сеўрук? — спытаў ён у мужа.

— Сеўрук.

— Вось ордэр на арышт і вобыск.

У тую ноч яго забралі. Я засталася з маленькай дачкой без сродкаў існавання. Пайшла працаваць на курсы майстроў сацыялістычнай працы, дзе выкладала расейскую мову. За адну ноч мы сталі сям'ёй ворага народа... Непрыемнасці пасыпаліся адна за другой... Нас высялілі з вялікага пакоя ў меншы... Дырэктар курсаў папярэдзіў, што вымушаны звольніць мяне з працы, як жонку здрадніка... Каб не чакаць, калі гэта адбудзецца, я напісала заяву па ўласным жаданні, кінула Маскву і паехала да брата ў Балабанава, дзе ён працаваў у школе завучам. Стала выкладаць там нямецкую мову.

А праз год прыйшлі немцы. Яны занялі школу пад казарму, а мы перайшлі ў былы панскі маёнтак. Пачалося жыццё ў акупацыі. Перакладчыцай да немцаў я не пайшла. Але калі што-небудзь у людзей здаралася, яны беглі да мяне: дапамажы. І я дапамагала. Нямецкія салдаты не ўсе былі галаварэзамі. Я бачыла салдат, якія плакалі ад таго, што ім прыходзілася рабіць... Адзін афіцэр казаў мне: я даў бы дубінкі Сталіну і Гітлеру і хай бы яны біліся, а нас у спакоі пакінулі...

**— Колькі часу вы пражылі ў Балабанаве?**

— Нядоўга, бо не было чаго есці. Немцы сабе харчы са Смаленска прывозілі, а людзі галадалі. Я ведала шафёра Райнхольда і афіцэра Ропке, якія ездзілі ў Смаленск. Яны ведалі, што мой муж у савецкай турме, і хоць я не пайшла працаваць да іх, яны спачувалі мне... Калі на Каляды жонка Ропке прыслала яму пячэнне, цукеркі, — ён усё аддаў маёй дачушцы. Кожны ж баіцца Бога... Я вырашыла ехаць у Ярэмічы — на радзіму маіх бацькоў. Райнхольд прапанаваў мне сваю дапамогу. Ён пагадзіўся давезці мяне да Смаленска. А ад Смаленска на Беларусь курсіравалі цягнікі...

**— Так вы апынуліся ў Смаленску...**

— Смаленск і сёння стаіць прад маімі вачамі. Разбураны ўшчэнт... Адны сцены. Нашы старажытныя беларускія сцены. Смаленск не падобны на астатнія расейскія гарады. Памятаю, як яшчэ да вайны Дамінік быў там на вучэннях. Я прыязджала да яго і жыла ў вёсцы ля Смаленска. І вы ведаеце, на якой мове размаўляла вёска? На чысцюткай беларускай мове! Як крыўдна, што мы згубілі гэтую зямлю...

Са Смаленска я дабралася ў Менск. Знайшла свякруху — маці майго мужа. Мы з ёй перапісваліся, калі Дамініка арыштавалі. Яна ў лістах адкрыта пісала: каб яны падохлі ўсе, бальшавікі, калі яны так здзекуюцца з людзей... А Дамінік мяне прасіў: напішы маме, каб яна так больш не пісала. Маці была хворая, усё забывала... Калі пасля вайны Дамінік вярнуўся з турмы і пачаў шукаць мяне, яна не магла ўспомніць, што я з дачкой прыходзіла да іх...

У Менску я прабыла два тыдні, пазнаёмілася з Вацлавам Іваноўскім. Ён расказаў мне, што неўзабаве адкрываюцца настаўніцкія семінарыі — Нясвіжская і Навагрудская. Я папрасілася ў Навагрудак. А калі прыехала туды, семінарыя яшчэ не адкрылася, і я пайшла працаваць у Ярэміцкую сямігодку. Пасяліліся мы з Інай у бацькавай хаце, якую даглядаў стрыечны брат. Ярэмічы жылі яшчэ спакойным жыццём, там не было яшчэ ні партызан, ні паліцаяў, ні немцаў. Я выкладала геаграфію, гісторыю, нямецкую мову. Потым стала горш. З'явіліся партызаны, паліцаі... Вайна прыйшла і ў Ярэмічы. Мы пераехалі ў Навагрудак, я перайшла ў семінарыю. Узначальваў яе доктар Аляксандр Орса. Ён падабраў добры настаўніцкі калектыў. Усе прадметы выкладаліся па-беларуску. Праграмы мы складалі самі. Немцы не ўнікалі ў нашы справы. Семінарыя часта была для моладзі паратункам ад партызан і ад немцаў. Часта партызаны прысылалі семінарыстам запіскі, каб яны ішлі ў лес да іх... Не прыйдзеш, — спалім бацькоў. Некаторыя ішлі, а некаторыя — не... У Навагрудку мы прабылі адну зіму. Наступала Чырвоная Армія. Трэба было прымаць рашэнне: заставацца ці пакінуць бацькаўшчыну, дзе на кожным куту нехта свой, і ехаць у невядомае, нічога не маючы... У семінарыі мы працавалі дарма. На свой заробак я магла купіць толькі бутэльку газаліны. Нам далі спецыяльны пропуск у гэбітскамісара, і я магла паехаць з немцамі. Ужо сабрала рэчы і павінна была ад'язджаць, калі да мяне забеглі дзве семінарысткі і ў плач: куды вы? І адгаварылі мяне ехаць. Я вярнулася назад, адкапала ў садзе свае рэчы. І тут пачула, што вярнуўся Барыс Рагуля. Я да яго: дапамажыце! Ён мне даў воз і каня. На яго машыне мне месца не было. Так з дапамогай Рагулі мы выехалі з Навагрудка. Ноччу трапілі пад бамбёжку і ўсё згубілі... Немцы дапамаглі мне з дачушкай дабрацца да Гародні. Я зайшла ў першую хату і расказала людзям, што да чаго. Яны накармілі, напаілі нас і паклалі спаць. Добрыя людзі былі. Назаўтра дастала білет на цягнік да Беластока. Адтуль мы паехалі на Варшаву. Там была вялікая беларуская арганізацыя, якую ўзначальваў Мікалай Шчорс. Ён дапамог нам дабрацца да Нямеччыны.

**— Тады ў Нямеччыне ўжо было шмат беларусаў?**

— Так, я таксама сустрэла знаёмых людзей. Мне далі працу ў хлебнай краме. А праз некаторы час я даведалася, што ў Рэнэнсбургу арганізоўваецца беларускі лагер і што там будзе беларуская гімназія. Я паехала туды і доктар Орса ўзяў мяне выкладаць нямецкую мову. Я жыла ў адным доме з Віцьбічамі. У Рэнэнсбургу быў вялікі добраўпарадкаваны лагер, але мы прабылі там нядоўга. Нас перакінулі ў Міхельсдорф. Там мы жылі ў бараках у лесе. Потым пачалі рыхтавацца да эміграцыі. Я пайшла на курсы і дастала дыплом настаўніцы ангельскай мовы. А за гэты час беларусы пасварыліся і падзяліліся на зарубежнікаў і крывічоў...

**— Спадарыня Іна, у Нямеччыне адбыўся ваш літаратурны дэбют?**

— Я была тады ў вельмі цяжкім становішчы. Мой далейшы лёс быў невядомы. Аднойчы мне трапіла ў рукі газета «Раніца», якую выдаваў у Берліне Кастусь Езавітаў. Газета мне спадабалася, і я паспрабавала нешта напісаць... Гэта былі ўспаміны «Менск у 1930-1931 гг.» і невялікае апавяданне. Успаміны неўзабаве з'явіліся ў «Раніцы», а апавяданне — не. Ці то слабое было, ці то недзе згубілася... Але на гэтым мая літаратурная праца прыпынілася. Шмат гадоў было не да гэтага.

**— Нарэшце здзейснілася ваша мара і вы прыехалі ў Амерыку...**

— Гэта было ў траўні 1950 года. Мяне

*Працягваем цыкл гутарак паэта Леаніда Пранчака з дзеячамі беларускага замежжа, пачаты ў «ЛіМе» летась.*

спаткаў спадар Тулейка. А праз некаторы час я даведалася, што ў Нью-Йорку сабралася вельмі шмат беларусаў і я захацела быць сярод сваіх. На сотай вуліцы, дзе жылі адны негры, я зняла пакой у Янкі Станкевіча. Знайшла працу: на хлебнай фабрыцы пакавала кейкі. Калі падрабіла крыху грошай, — пайшла на курсы і дастала працу ў офісе. Амерыканцы вельмі прыхільна адносяцца да новых эмігрантаў. Я гэта адчула на сабе.

У Нью-Йорку было выдатнае беларускае асяроддзе. Кожны тыдзень спраўлялі вяселлі. У эміграцыю прыехала шмат мужчын і вельмі мала жанчын. А кожны беларус хацеў мець за жонку беларуску, каб стварыць беларускую сям'ю...

У Амерыцы я пачала пісаць. Янка Станкевіч папрасіў для часопіса «Веда» падрыхтаваць артыкул пра беларусаў у Адэсе. Напісала. Ён ухваліў і спытаў: а якія ў вас былі прафесары ва універсітэце? Кажу: Доўнар-Запольскі. Напішыце мне пра яго! Так Янка Станкевіч заахвоціў мяне да літаратурнай дзейнасці...

**— А неўзабаве ад успамінаў і артыкулаў вы перайшлі да мастацкай прозы?**

— Я, можа, і не перайшла б, калі б так не павярнулася маё жыццё. Я выйшла замуж за Аўгена Кахаюўскага /Калубовіча/ і пераехала жыць у Кліўленд. У Нью-Йорку я мела доступ да выдатных бібліятэк, шматлікіх архіваў. А ў Кліўлендзе ўсяго гэтага не было... Таму я вымушана была перайсці да апавяданняў і аповесцяў.

**— Два пісьменнікі пад адной страхой — гэта, мабыць, складана?**

— Аўген быў вельмі сумленным і акуратным чалавекам. Я зусім не ведала яго з Беларусі. Але тога Аўгена Калубовіча, якога я ведала ў Амерыцы, я глыбока паважала і шанавала. Ён шчыра верыў, што Беларусь мусіць быць незалежнай. І ўсё жыццё аддаваў гэтаму.

Я заўсёды пісала між іншымі справамі. Галоўнае для мяне было стварыць умовы для працы Аўгена. Яго ўсё жыццё так крыўдзілі! Нават тут. Бо не згаджаўся з пазіцыяй Рады БНР і адышоў ад іх. Калі Аўген разышоўся са Станіславам Станкевічам, я прыстроіла яго творы ў газету «Беларускі час», якую выдаваў доктар Гарошка, у часопіс «Беларуская думка» ў Саўт Рыверы. Дзякуючы гэтым выданням Аўген змог пасля выдаць кнігі «Айцы БССР» і «На крыжовай дарозе». А я па-ранейшаму падтрымлівала добрыя адносіны са Станіславам Станкевічам, нават друкавалася ў яго. Ён быў прыемным чалавекам. Цяпер чамусьці яго нядобра малююць, а для беларускай справы ён зрабіў вельмі шмат...

Аўген вельмі ўважліва сачыў за палітычным і літаратурным жыццём на Беларусі. Мы выпісвалі амаль усе газеты і часопісы, беларускія кнігі. Мне вельмі падабалася проза Васіля Быкава. А Аўген асабліва захапляўся Іванам Мележам. Ён лічыў Мележа выдатным пісьменнікам і неаднойчы прачытваў яго творы...

**— Спадарыня Іна, што, на ваш погляд, найбольш значнае з таго, што стварылі беларускія літаратары на эміграцыі?**

— Важна ўжо тое, што з намі лічацца на Беларусі. І ўсё лепшае, што мы стварылі тут, нарэшце мае магчымасць быць прачытаным на радзіме. Сярод навукоўцаў я вельмі высока стаўлю доктара Вітаўта Тумаша. Ён выдатны знаўца Скарыны. Яго доследы грунтоўныя і цікавыя. З празаікаў — Юрка Віцьбіч. Лепшым беларускім паэтам я лічу Масея Сяднёва. Хто разумее паэзію, — той гэта бачыць.

**— Спадарыня Іна, у Амерыцы выйшлі дзве кнігі вашай прозы...**

—Так, Янка Золак выдаў маю аповесць «Браты». Ён вельмі падтрымліваў мяне і часта падбіваў пісаць. Бывала тэлефануе і першай справай пытае: Іна Іванаўна — ён мяне так называў — калі прышляце ў «Думку» новае апавяданне? І я сядала і пісала. Маю я і анталогію маёй прозы «У пошуках праўды». Яе выдалі Зора і Вітаўт Кіпелі ў Беларускім інстытуце навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Грошы на гэтае выданне сабралі Сяргей Карніловіч і Кастусь Калоша. Я вельмі ўдзячна гэтым шчырым людзям. Свае творы я падпісвала псеўданімам Аляксандра Саковіч. Гэта прозвішча з роду маёй маткі. Сапраўдным прозвішчам Рытар ніколі не падпісвала, бо баялася, што гэта можа пашкодзіць маім родным на бацькаўшчыне.

Літаратура для мяне заўсёды была вялікай духовай радасцю. А беларуская літаратура, беларускае слова лучыла мяне з Беларуссю, давала сілы і надзею. Гэта мой самы вялікі скарб і самая вялікая любоў!

**Гутарыў**
**Леанід ПРАНЧАК**

## ПЕРАКЛАДЫ

***Славістку Эльке Эрб ведаюць у Нямеччыне і як таленавітую паэтку, паганараваную некалькімі прэстыжнымі літаратурнымі прэміямі, і як выдатную перакладчыцу паэзіі ды прозы з расейскай, а ў апошнія гады і з беларускай моў. Арыгінальная творчасць спадарыні Эльке мае элітарна-медытатыўны характар. Не хаваю, мне нялёгка было перастварацъ яе вершы. Даводзілася цярпліва ўнікаць у амаль бясстрасныя тэксты ў пошуку «жывой вады», таго «чыстага элемента жыцця, чаго нам ува ўсім, заўсёды, усюды бракуе», як сцвярджае ў адным з вершаў сама паэтка. Не надта ўпэўненая, што, знайшоўшы тую аквавіту ў першакрыніцы, я патрапіла захаваць яе і ў кожным сваім перастворы. Ды ўсё ж спадзяюся, што нашаму чытачу, прызвычаенаму да класічна-песеннай беларускай паэзіі, будзе цікава кінуць вокам і на мысьлярскае мастацтва, якое даўно ўжо грунтоўна пануе ў заходнееўрапейскай літаратуры.***

***Ніна МАЦЯШ***

**Эльке ЭРБ**

### МЕРКАВАННЕ

Трэба амаль ва ўсім, амаль кожнаму
/амаль заўсёды і г. д., амаль усюды/
чыстую — ваду /кажу я,
не знаходзячы лепшага слова,
і хай будзе так/ —
ваду адшукаць, той
чысты элемент жыцця,

менавіта тое, чаго нам
ува ўсім, у іншым, заўсёды, усюды і г. д.
бракуе.

Эстэтычная праца,
* Hervorbringung /па-ням./: Паэзія
даказвае яго наяўнасць.
Але зараз я ўпершыню патрапляю
яе ад яго адрозніваць:

Сэнс мастацкага твора
не ў даказванні ўсёнаяўнасці
гэтага элемента, а што
сэнс той — праўдзівы,
і што элемент жыцця ў творы мастацтва
канкрэтны.

Не трэба блытаць яго
з самім творам мастацтва,
ды, магчыма,
любоў да мастацтва
яго вышуквае.

Гэта ім і разрознена, што
не мастацкім творам,
а ягонай прысутнасцю ў творы
не ўпускалася б з віду:

магло б распачацца жыццё зусім іншае,
зусім іншае,
вынік
з гэтага,

такі вынік, якога нам амаль
заўсёды і г. д., усюды
нясцерпна бракуе.

Упушчанае адрозненне —
вузёл упушчэння.

/Яго трэба таксама адрозніваць
ад тваіх пакутаў кахання.
Ты схацеў быць бліжэй да яго.

Праз яго любоўныя мукі
не страта, а мукі народзін:
Ты ўзнікаеш./

* *Спараджэнне, вытвар.*

### ПЕРСПЕКТЫВА Ў ЛЮТЫМ
/АДКАЗ НА АДНУ АНКЕТУ/

Не хачу думаць
пра магчымую заўтрашнюю бяду,
хай сабе гэта і не тыпова.

Не магу не думаць
пра затручаную прыроду вакольнага свету
і збэшчаную прыроду чалавечай дзейнасці.

На першаплане маіх зацікаўленняў
узнікае Немец,
сустрэча, якой я радая;

трэба яго вывучаць:
Ці чыніць ён псоту нам,
як яго ўгрунтаванасць квітнее,
ці паразітуе ён?

### ЗАЎСЁДНАЕ ЛЕТУЦЕННЕ ЗІМОЙ:

Ён павінен,
яна павінна,
яно павінна

печку плюс
печку плюс
печку

паліць.
Гэта так залатава, як заранак.

### ВЯЛІКАЕ І МАЛОЕ. ПРЫВАТНАЕ І АГУЛЬНАЕ.

Не здавольваюся малым, прыватным,
не бачу вялікага.
Бо спазнаю яго тут,
як яно паўстае прад маімі вачыма.

Гэтак горны масіў,
калі ў полі зроку толькі падножжа яго,
апынаецца
вонкі агляду. Выява яго
узнікае на якімсь паваротку,
не абавязкова ў вандроўцы. Імкнуся
да разгляду, а не
маю ўразлівага адчування,
што супыняюся на малым, і вялікае
застаецца вонкі ўвагі
і па-ранейшаму /адносна існага
выгляду/ пад пагрозай быць не спазнаным.
І нават не спасцярожаным.

Позірк на вялікае, якое пасля
стаецца хутчэй агульным, чым вялікім,
выяўляе яго вонкі супынку
як складанасць!

### ПАКАЙНАСЦЬ

Жыў аднойчы маленькі хлопчык,
але стаў ён дарослым.
Жыла аднойчы шчаслівая маладзенькая маці,
але ў цэйтноце.

### ЖАДАННЕ ЗАЙМАЦЦА БУДАЎНІЦТВАМ

Яны могуць спакойна
будаваць, што хочуць.
А з каморкай гэтаю — лецішча —
/пра што сведчаць і плечы:/
не зраўняцца нічому.
Хіба толькі хадзе да вакна
па падлозе — з хадой самагубцы
/ах, не, не, не, такая на віле вашай мансарда/.

Тое, што вечна імі будуецца, зусім не падобна
да каморкі гэтай, паддашку гэтага,
альбо нат да жылога пакойчыка-кухні ўнізе,
і ўзнаўляліся гэтыя — лецішчы —
пасівелыя, сціплыя жаданні
так часта, што пустыню сабою
укрывалі, Сахару ці Гобі.

### ЯНА Ў МАІМ ДОМЕ

Арагавеласцю б асланіцца мне,
каб не выцяцца.

Павінна ж яна, бомка, рыбка мая,
аднойчы з'явіцца ў мяне

там, у вёсцы.

Толькі трэба давесці ёй,
што ўсё ейнае гэта,
што яна бачыць.

Трымаць у куфэрачку навідавоку.

А дзе ж гэта яна выглядвае?
А як жа гэта яна выглядвае

непапсутаю?

«Не, вокны не трэба перастаўляць».
«Не, кухня сама
не выглядвае».

Ці прыдзе яна, бомка, рыбка мая,
ці прыдзе яна, мая госцейка,

асланіць мяне своечасова?
Толькі б давесці ёй:

абрагавеласць патрэбна мне,
каб не выцяцца!

### СОНЕЧНЫ ДЗЕНЬ

З кірмашовага места дадому вяртаючыся
праз зеляненькую разлогу,
экспрэс выяўляе

на тры вокамгненні легкавік у блакіце,
а за ім чырвоны
і жоўты,

на два вокамгненні дом недавершаны
у вішаніку расцвілым,

на імгненне — нічога, апроч руні.
Ах, чаму ж?

Добраўпарадчанае царства духу,
які пад Лейпцыгам
шчэ займаецца земляробствам.

# ПЕРШЫНЕЦ З ТЭМАТЫЧНЫХ...

Першынцам з планаў выпуску літаратуры на 1994 год стаў тэматычны план выдавецтва «Навука і тэхніка». Канечне, «няма таго, што раньш было»: паменшала, яшчэ як паменшала колькасць пазіцый! Яшчэ нядаўна ў планах выдавецтва значылася да 300 кніг, дык цяпер — усяго сто шэсцьдзесят чатыры. А як будзе з іх выхадам — адзін Бог ведае. І ўсё ж, з таго, што запланавана, многае ўсцешвае.

Назаву найперш кнігі «Драматургічная спадчына Я. Купалы» П. Васючэнкі, «Праблемы сучаснай беларускай крытыкі» Т. Грамадчанкі, А. Гурскай, Л. Гарэлік, «Маральна-філасофскія пошукі беларускай ваеннай і гістарычнай прозы: 1950—1960-я гады» В. Локун, «Паміж былым і будучым: проза Максіма Гарэцкага» І. Чыгрына.

Серыя «Беларуская народная творчасць» папоўніцца тамамі «Гульні, забавы, ігрышчы» і «Прыкметы і павер'і».

Па раздзеле «Мастацтва. Мастацтвазнаўства» запланаваны: «Батлейка» Г. Барышава, «Зінаіда Канапелька» Т. Гаробчанкі, «Культавае дойлідства Беларусі XIII—XVI стст.» А. Кушнярэвіч, «Бераг вандраванняў: Адкуль у Беларусі мячэці» А. Лакоткі, калектыўныя працы «Музычны тэатр Беларусі: 1960—1980 гг.», «Тэатр і час: Праблемы сцэнічнага мастацтва на сучасным этапе і гістарычны вопыт» і іншыя.

Папоўніцца новымі выданнямі серыя «Нашы славутыя землякі» — «З-па-над Свіцязі ўзнебныя рытмы» /Адам Міцкевіч/ У. Мархеля, «Страцім» беларускай гісторыі» /Мітрафан Даўнар-Запольскі/ Г. Сагановіча, «Меч і слава Панямоння» /Давыд Гарадзенскі/ С. Тарасава, «Неадменны сакратар Адраджэння» /Вацлаў Ластоўскі/ Язэпа Янушкевіча.

На так званага шырокага чытача разлічаны і такія працы: «Віцебск: Пасад — Дольны замак. X — сярэдзіна XIV стст.» Т. Бубенькі, «Заслаўе ў эпоху феадалізму» Ю. Зайца, «Стары замак у Гродне ў XI—XVIII стст.: Гісторыка-археалагічны нарыс» А. Трусава, В. Собаля, Н. Здановіча...

## Наш каляндар

**135 гадоў з дня нараджэння рускага літаратуразнаўцы Аляксея ГРУЗІНСКАГА споўнілася 3 мая /1858—1930/. Даследаваў таксама беларускі фальклор і этнаграфію. Аўтар артыкулаў «З этнаграфічных назіранняў у Рэчыцкім павеце Мінскай губерні» /1891/, «Духоўныя вершы. Мінская губерня, Рэчыцкі павет» /1898/, «П.В.Шэйн» /1901/.**

●

**200 гадоў з дня нараджэння рускага этнографа, фалькларыста, археолага Івана СНЕГІРОВА споўнілася 4 мая /1793—1868/. У яго «Дзённіку» /1902—1905/, «Успамінах» /1866/, апублікаваных у часопісе «Русский архив», ёсць цікавыя звесткі па гісторыі, фальклоры і этнаграфіі Беларусі.**

●

**110 гадоў з дня нараджэння беларускага мовазнаўцы Сцяпана НЕКРАШЭВІЧА споўнілася 8 мая /1883—1937/. З канца 1928 года быў віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук Беларусі, старшынёй камісіі па ўкладанні слоўніка жывой беларускай мовы і арфаграфічнай камісіі, дырэктарам Інстытута мовазнаўства. Аўтар «Беларускага лемантара» /6 выданне выйшла ў 1929 годзе/, складальнік школьных літаратурных чытанак.**

●

**90 гадоў з дня нараджэння беларускага паэта Апанаса АТАВЫ /Апанаса КАНАНОВІЧА/ споўнілася 8 мая /1903—1962/. З 1925 года друкаваўся ў газеце «Вясковы будаўнік». Належаў да найбольш таленавітых сяброў Слуцкай філіі «Маладняка».**

●

**60 гадоў з дня выхаду ў Вільні першага нумара штомесячнага культурна-грамадскага і літаратурнага часопіса «Беларускі летапіс», органа Таварыства беларускай школы. Спачатку называўся «Летапіс Таварыства беларускай школы», выдаваўся да верасня 1939 года. З 1937 года ў «БЛ» паштовы аддзел вёў Максім Танк. Пад псеўданімам А.Вучыцель друкаваўся Р.Шырма. Часопіс асвятляў літаратурнае і культурнае жыццё, расказваў пра беларускую эміграцыю ў Францыі і Аргенціне. Вялікую ўвагу ўдзяляў выкладанню ў школе на беларускай мове.**

КАЗКІ ПЕРАБУДОВЫ

Вячаслаў ПІЛІПЧЫК

# ПАБРАЦІМЫ

У КАНЦЫ снежня 1912 года расійскія сацыял-дэмакраты сабралі ў Кракаве нараду. Усяго было чатырнаццаць чалавек: члены ЦК, партыйныя работнікі, якія прадстаўлялі арганізацыі Пецярбурга, Масквы, Урала, Каўказа, і бальшавікі — думскія дэпутаты. Нарада не канстытуявалася як канферэнцыя, бо не было магчымасці праводзіць выбары. Першы з дакладам «Рэвалюцыйны ўздым, стачкі і задачы партыі» выступіў У. І. Ленін. Засядалі адзінаццаць разоў і выпрацавалі рэзалюцыю па задачах партыі, будаўніцтве нелегальнай арганізацыі, думскай фракцыі, прэсе, адносінах да ліквідатарства. Усе дакументы прыняты аднагалосна. Дэлегаты пачалі раз'язджацца. Адзін малавядомы ў партыйных колах грузін вырашыў затрымацца. Ён толькі аднойчы быў за мяжой. Тут так хораша — ціха, спакойна, не трэба баяцца шпіёнаў і жандараў. Ніхто з таварышаў па партыі не пярэчыў. Толькі ў верасні ён уцёк з Нарынскага краю і яшчэ не адаспаўся. Бяда толькі, што грузін зусім не ведаў еўрапейскіх моў. Пра Польшчу ён праз шмат гадоў успамінаў: «Шыпят, панымаеш, а я хрыплю. Што не скажы — нэ панятна. Дзяўшкі белые, красівые, але я думаў пра партыю, пра нацыянальнасці. Потым напісаў аб гэтым кнігу. Аблаяў усіх апартуністаў. Леніну панравілась».

За мяжой гэтаму чалавеку патрэбна была нянька. У Кракаве такой не аказалася. У. І. Ленін першы паехаў у Пароніна. Нехта ехаў у Вену і прапанаваў грузіну праехацца. Так і зрабілі.

Цягнік прыйшоў к абеду. Выйшлі, агледзеліся, уладкаваліся ў гасцініцу. Таварыш пайшоў па справах. Грузін таксама вырашыў прагуляцца па горадзе. Потым расказваў: «Іду, панымаеш, па нейкай Мерынштрасэ. Усе бягуць і не азіраюцца. Акаюць, окаюць. Рашыў перайсці вуліцу. Хапае мяне нейкі джыгіт у доўгім плашчы і чорным капелюшы. Штосьці крычыць. Я не панымаю. Добра, грэк з Балаклавы пераклаў: «Чаго, юда, траву топчаш?» Падобна, задзіраецца. Грэк пераклаў, што я не юда, а грузін. Джыгіт узрадаваўся. Яму прыемна, што на свеце менш на аднаго юду. Потым выявілася — абодва мы горцы, у нас сугучныя фаміліі, лёгкія імёны — Сасо, Дольфі. Запрашае зрабіць трынкен. Грэк, вядома, трэці».

Пачалі са шнапсу.

— Празіт!

— Гагвірджос!

Перайшлі на піва. Аўстрыец шмат гаварыў: «Мяне вядзе Боскае прадбачанне. Я буду правадыром нямецкай нацыі. Я перастану есці мяса. У мяне заўсёды будуць ясныя думкі».

Грузін не адставаў ад яго: «Я буду правадыром сусветнага пралетарыяту. У семінарыі мне казалі: калі рабы стануць роўнымі ў рабстве, можна дасягнуць абсалютнай улады».

Новыя таварышы гаварылі адначасова, перакладаць іх было немагчыма. Калі грузін пачаў зваць кельнера і закрычаў: «Дрэай бір, сабака», грэк вырашыў парадыхнуць. Жах нейкі. Адзін роў: «Кайзер капут!» Другі: «Далоў самадзяржаўе!» і неўпапад: «Юдэн — шысэн!», «Троцкі — шысэн!», «Сібір — гутэн Гэфтліх Ланд», «Меншэвікоў і эсэраў — да сценкі». Грэк здаля назіраў і цешыўся. У Адэсе не паверыць. Запас слоў у іх хутка скончыўся. Сябры ўсталі, абняліся і перайшлі на жэсты. Дамінаваў больш высокі аўстрыец. Ён вадзіў рабром рукі ўпоперак шыі і паказваў уверх ці прыстаўляў два пальцы пад рабрыну і таксама паказваў уверх. Грузін прыстаўляў палец да патыліцы і дэманстраваў звязаныя ззаду рукі.

Калі ўбачылі грэка, загаварылі зноў: «Я акружу сябе здольнымі генераламі, я пастаўлю на калені Францыю і Англію. Толькі мячом мы можам забяспечыць сабе жыццёвую прастору і толькі за кошт Расіі. Я буду кіраваць светам».

— «Ты павінен працаваць на рэвалюцыю і не бойся патаптаць зялёную траву. Вавой увесь свет, але Расію мы табе нэ дадзім».

Грэк стаміўся перакладаць. Сябры зноў абняліся і пачалі размаўляць самастойна. Зноў дамінаваў аўстрыец. Грузін за ім толькі паўтараў: «шысэн, мордэн, штрэбэн...» Выявілася, што абодва яны сухарукія. Гэта іх яшчэ больш зблізіла.

Замінка выйшла, калі настаў час разлічвацца. У грэка грошай не было.

— Я нэ магу прапіваць партыйныя дэньгі. Я нэ Ленін.

— Добра, я заплачу. Адсудзіў крыху ў аднаго тыпа. Разам капіравалі чарцяжы і ён мяне абжуліў.

— Зачэм суд? Добра ў морду і рэвальвер да носа. Усё зразумее. Мы так банкі чысцім, а ён кішэню нэ можа.

На вуліцы абодва прыціхлі. Адзін накіраваўся ў гасцініцу, другі — у начлежку...

Апісаная сустрэча, вядома, гіпатэтычная, хоць выключаць яе цалкам нельга.

Перад вайной Рыбентроп, знаходзячыся ў Маскве з місіяй міру, пачуў ад Сталіна: «Мой стары сябар Гітлер». Не ведаў правадыр часоў і народаў, што Гітлер здорава паразумнеў, і цяпер ад яго на дармаўшчыну нічога не атрымаеш. Пасля капітуляцыі Берліна ў бункеры знайшлі абгарэлы труп Гебельса, жонкі і дзяцей. Іх разам выставілі на свет божы, завязаўшы папярэдне на шыю бацьку жоўты гальштук /ён быў крышачку яўрэй/. Відовішча было злавеснае, нават для салдат, якія шмат чаго пабачылі. Далажылі Сталіну. Той забараніў далейшую дэманстрацыю, а Гітлера загадаў шукаць тайком і без усялякіх дэманстрацый.

«Лёс Гітлера невядомы», — сказаў ён саюзнікам на Патсдамскай канферэнцыі, хоць ведаў усё пра яго смерць, і чэрап фюрэра ўжо даўно быў у Маскве.

Калі закончыўся Нюрнбергскі працэс, які асудзіў ідэю нацыянал-сацыялізму, Сталін не раз гаварыў сваім сапратнікам: «Добра, што Гітлер пачаў вайну першы. Гэтак жа мог быць асуджаны і я з вамі. Мы ж знішчылі больш, чым яны. І таксама хацелі рушыць войскі спачатку на румынскую нафту, а потым на Берлін».

Сёння, калі гісторыкі атрымалі доступ да значнай часткі архіваў «трэцяга рэйха», нам стала ясна, што фашысты дзейнічалі па дэталёва распрацаваных планах акупацыі Еўропы і ўсяго свету, знішчэння людзей, устанаўлення новага парадку. Атрымліваецца ўсё, як у вядомай песні Эжэна Пацье: «Весь мир насилья мы разрушим до основанья, а затем мы наш, мы новый мир построим...»

У васьмідзесятых гадах польскі эканаміст Чэслаў Лушчак выдаў у Познані кнігу «Эканамічная палітыка Трэцяга рэйха ў гады другой сусветнай вайны». Гэтая палітыка зводзілася да дзесяці прынцыпаў:

— канфіскацыя партыяй дзяржаўнага і грамадскага багацця;

— выкарыстанне прамысловага патэнцыялу краін-сатэлітаў;

— устанаўленне абавязковых паставак сельгаспрадуктаў — харчразвёрстка;

— абмен таварамі на нявыгадных умовах;

— драпежніцкая эксплуатацыя тэхнікі і транспарту;

— устанаўленне крайне нізкага ўзнагароджання за працу;

— пазбаўленне часткі насельніцтва харчавання;

— усямернае зніжэнне матэрыяльнага ўзроўню людзей з тэрыторый-сатэлітаў;

— масавае фізічнае знішчэнне нязгодных з рэжымам;

— пабудова прапаганды на міфах і ўсеагульнай хлусні.

На вялікі жаль, даводзіцца канстатаваць, што гэтымі прынцыпамі кіраваліся і камуністы. У пытаннях татальнага панавання над уласнасцю, адукацыяй, навукай, правам, усеагульным замоўчваннем негатыўных з'яў мы пайшлі яшчэ далей. Развал планаў фашызму каштаваў жыцця дзесяткам мільёнаў людзей. Чамусьці нас не вельмі хвалюе, што планы камуністаў усё яшчэ на рабочым стале.

Пасля забароны КПСС многія з яе кіраўніцтва сталі дэмакратамі. Яны ўмела выкарысталі абстаноўку і арганізавана прыйшлі да ўлады на месцах. Гэта яны, не думаючы, друкуюць папяровыя грошы і падштурхоўваюць і без таго галапіруючую інфляцыю. Гэта яны ўводзяць «свабодныя» цэны без прыватызацыі і нажываюцца, як ніхто. Гэта яны арганізоўваюць згортванне вытворчасці і нестабільнасць жыцця людзей. Іх крыштальная мара — захапіць як мага больш капіталу і прыватызаваць матэрыяльныя каштоўнасці. З беднымі дзяліцца ніхто, вядома, не збіраецца. Маркуючы па замежных аўтамабілях, на якіх яны раз'язджаюць, справы ідуць няблага. Прэса адкрыта піша пра чыноўнікаў аблвыканкома, якія прадаюць нафтапрадукты, каляровыя металы, харчы і ўсё, што мае цану. Пра адкрытыя працэсы можна толькі марыць. Гадамі вядзецца следства. Бяда, аднак, у тым, што самі яны на ўсіх узроўнях не свабодныя ў сваёй дзейнасці. Яны залежаць ад тайных спружын створанай раней сістэмы. Нас яны палохаюць: калі мы адыдзем — будзе хаос. Але большага хаосу і развалу, як сёння, у нас яшчэ не было.

Ад такой сітуацыі зноў недалёка да новых грамадскіх катаклізмаў.

Час стварэць асяроддзе і вырошчваць дэмакратаў. Мы не раз крывёй разлічваліся за сваю неарганізаванасць. Чытаеш гісторыю і проста крыўдна. Беларусь дала Польшчы дынастыю Ягелонаў, Панятоўскага, Пілсудскага, рускім — дынастыю Раманавых, Екацярыну І, Меньшыкава, Сталыпіна, яўрэям — Г. Меер, Ш. Перэса, М. Даяна. Усё — на экспарт, сабе не застаецца і на развод.

Не дай Бог, дзесьці зноў скідваюцца на траіх новыя дыктатары. Беларускаму народу дзейнасць гэтых двух, як выявілася, сапраўдных параноікаў, каштавала мільёны жыццяў.

Час няўстойлівы. Занадта доўга дрэмле грамадскі інстынкт самазахавання ў нашай нацыі. Небяспека ўдзелу ў войнах зноў на парозе. Большасць нашых афіцэраў на чужых тэрыторыях. У выпадку чаго мы зноў наўрад ці зможам пастаяць за сябе.

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

— Што робіце, туркі, на Беларусі? — А мы гасцям вашым у хаўрусе будуем дамы. — А хто будзе жыць у дамах гэтых новых? — Народ суровы, народ вайсковы — не вы, не мы. — А вас колькі, госцейкі, прываліла, якая за вамі крутая сіла, чаго чакаць? — А ліха галоў нашых не лічыла, няма карысці ад нашай сілы, ні ўзяць, ні даць. — А куды падзенецеся, госці, калі нарэшце зменіцца штосьці? — Асядзем тут...

□

Шчасце адчуць над сабою лейцы, бегчы за кімсьці ўслед. «Я зноў у ячэйцы, зноў у ячэйцы», — радуецца сусед. На кніжцы абясцэненыя капейкі, ды нешта ўсё ж захаваў. «Уяўляеце, — цешыцца сусед з ячэйкі, — партыйны стаж не прапаў».

□

Дэмаграфічнае. — Горад адмоўна ўплывае на склад сям'і: дзяцей менее, клопату з імі больш, а вырастаюць дзеці — бацькі ім замінаюць... — Дружа, гарады не вінаватыя, кватэры малыя.

□

Свой цяжкі лёс, жыццё амаль салдацкае клянуць паўсюдна групы дэпутацкія. Чаго ж тады жадаюць дэпутаты? Каб сталі пажыццёвымі мандаты.

□

Хто б мог падумаць, што даражэйшым за тое, чаго ён варты, Ленін будзе толькі на металічных рублях.

□

Нейтронны ляціць снарад, ракета імчыцца за ім — людзі ўсё ўдасканальваюць і ўдасканальваюць зброю. О, далёкая эпоха кавалерыі, станковых кулямётаў «максім», паядынкаў высакародных рыцараў паміж сабою! Я за прагрэс чалавечы, але калі справа тычыцца зброі, я за вяртанне рыцараў, за Сярэднявечча. І з гэтым сімвалам веры шукаю рэакцыянераў.

□

Наш каляндар. Споўнілася 35 гадоў, як над навукова-даследчым інстытутам механізацыі і электрыфікацыі ўстаноўлены транспарант «Уздым сельскай гаспадаркі — усенародная справа!» Дата, аднак, не круглая, і ў якасці юбілейнай адзначацца не можа. Права на юбілей мае плакат «Правільным шляхам ідзяце, таварышы!» на аўтамагістралі «Масква — Брэст»: крылатаму выразу 70 гадоў.

□

Глядзіш у вочы ўнуку і думаеш пра лёс Беларусі? А як цябе ўнук аклікае — «дедушка» ці «дзядуся»?





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ

РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.





Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Тыраж 15.000. Нумар падпісаны 27.05.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12